Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4929) 30 чэрвеня 2017 г.






Фота Анатоля Клешчука.

НАВІНЫ ПЯТНІЦА 30.06

# У свет — … цыянальнае

## Дзень Бел… …а знакамітых замежных пляцоўках

**Пакуль у беларускіх гарадах напо… ідзе падрыхтоўка да святкавання Д… Незалежнасці, вядомыя музычныя калектывы, творчыя візітоўкі краін… выязджаюць за мяжу, каб распавесці пра Беларусь на мове, зразумелай ва ўсім свеце, — мове музыкі, танца, спеваў. Скончаны тур па Паўночнай Еўропе, доўжыцца падарожжа па Заходняй — акцыя «*Belarus Day*» («Беларускі Дзень») з поспехам сустракае новага гледача.**

Ідэю акцыі «*Belarus Day*» на V Усебеларускім народным сходзе агучыў народны артыст Беларусі Віктар Манаеў. На ініцыятыву адгукнуліся, і вось ужо два заслужаныя калектывы — Беларускі дзяржаўны акадэмічны ансамбль танца «Харошкі» і Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі — гастралююць па Еўропе.

… прымеркаваная да святкавання Дня Неза… …цы Рэспублікі Беларусь і скіраваная на шырокую …эзентацыю дасягненняў сучаснай беларускай культуры, — паведаміла першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга. — Пры падтрымцы Міністэрства культуры, Міністэрства замежных спраў і пасольстваў Беларусі за мяжой нашы найлепшыя калектывы выпраўляюцца ў гастрольны тур па вядомых сталіцах Еўропы. Канцэртныя праграмы, падрыхтаваныя калектывамі, скіраваныя на прапаганду і папулярызацыю сучаснага беларускага харэаграфічнага мастацтва, як аўтэнтычных традыцый, так і інавацый.

Гэтым часам у турнэ з новым праектам «Мы — беларусы!» знаходзіцца ансамбль танца «Харошкі». Мастацкі кіраўнік ансамбля, народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая падрыхтавала праграму «Покліч продкаў», якая раскрывае нацыянальныя фальклорныя традыцыі. Выступы ансамбля пазнаёмяць еўрапейскага гледача з культурай беларусаў у часы паганства і на пачатку хрысціянскага перыяду, у эпоху Адраджэння, а таксама з сялянскім і гарадскім побытам канца XVIII — пачатку XX стагоддзя. Народныя строі, выкарыстанне старажытных музычных інструментаў ды спалучэнне сучаснай і традыцыйнай харэаграфіі, уласцівыя «Харошкам», падкрэсліваюць аўтэнтычнасць і непаўторнасць нацыянальнага мастацтва. Потым — Варшава, Берлін, Ліён, Прага...

Першы канцэрт тура адбыўся ў Кіеўскім нацыянальным акадэмічным тэатры аперэты з удзелам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Украіне Ігара Сокала. А дзяржаўны ансамбль танца Беларусі (мастацкі кіраўнік — народны артыст Беларусі Валянцін Дудкевіч) паказаў музычна-харэаграфічную праграму «Спадчына» ў сталіцах краін Балтыі — Таліне, Рызе і Вільнюсе.

У планах акцыі «*Belarus Day*» — і надалей задзейнічаць лепшыя творчыя сілы краіны, каб знаёміць замежнікаў са здабыткамі культуры і мастацтва Беларусі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## Пункцірам

✔ Станцыі метро «Мінская» і «Беларуская» могуць з'явіцца ў В'етнаме. З прапановай спраектаваць адпаведныя станцыі ў Ханоі і Хашыміне намаганнямі беларускіх спецыялістаў выступіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас перамоў у пашыраным складзе з Прэзідэнтам В'етнама Чан Дай Куангам.

✔ Прэзідэнт Беларусі накіраваў віншаванне з нагоды 750-годдзя з дня ўтварэння Магілёва. «Доўгая і няпростая гісторыя ў горада. За гэтыя гады з замчышча Магілёўператварыўся ў сучасны індустрыяльны, навуковы і культурны цэнтр», — адзначыў кіраўнік дзяржавы. Вынік плённай працы — і шматграннае культурнае жыццё, адзначанае такімі яркімі мерапрыемствамі, як музычны фестываль «Залаты шлягер», фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа». Любоў да сваёй малой радзімы, праяўленне шчырага клопату пра яе, памяць пра гераічнае мінулае, працавітасць, цярпенне і гасціннасць — вось што вызначае цяперашняе пакаленне жыхароў горада, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Пытанне падрыхтоўкі дасье Аўгустоўскага канала для ўключэння ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА разгледзела беларуска-польская кансультацыйная камісія па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны на пасяджэнні ў Мінску. Пытанне аб удакладненні прапановы сумеснага аб'екта Беларусі і Польшчы, што прэтэндуе на ўключэнне ў прэстыжны спіс, стала адным з галоўных, бо намінацыйнае дасье краіны рыхтавалі некалькі гадоў. Абмеркаваныя далейшыя напрамкі дзейнасці ў сферы рэстаўрацыі на аб'ектах гісторыка-культурнай спадчыны. Падведзены вынікі работы XXII Міжнароднай летняй Нясвіжскай школы, першы этап якой ладзіўся ў Беларусі. Другі этап пройдзе ў жніўні на тэрыторыі Польшчы. Тэматыка цяперашняга курса — фарміраванне культурнага ландшафту.

✔ XV Міжнародны пленэр па кераміцы «АРТ-Жыжаль» пройдзе з 12 ліпеня па 2 жніўня на базе адпачынку «Вербкі» пад Бабруйскам, паведамілі ва ўпраўленні ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Бабруйскага гарвыканкама. Сёлета плануецца ўдзел дваццаці мастакоў-керамістаў з Беларусі, Расіі, Латвіі, Літвы, Малдовы, Індыі, Францыі, ЗША і Украіны. Свята керамікі завершыць выстаўка «Кераміка ночы», якая адкрыецца ў Бабруйскім мастацкім музеі 2 жніўня.

✔ Французскі мультфільм «Маленькі прынц» пакажуць на беларускай мове ў Мінску, Гродне, Магілёве і Гомелі, паведаміў кіраўнік праекта «Беларускія ўік-энды» Андрэй Кім. Гледачы сталіцы сустрэліся з «Маленькім прынцам» 23 — 25 чэрвеня ў кінатэатры «Масква», дзе прайшлі вячэрнія сеансы ў беларускім агучванні. У ліпені — жніўні «Маленькі прынц» выправіцца ў Гродна, Магілёў і Гомель.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Трапіць у шорт-ліст

Сёння завяршаецца этап падачы заявак на Нацыянальную літаратурную прэмію. Далей з дапамогай экспертаў будзе сфарміраваны выніковы спіс твораў, які разгледзіць па кожнай з намінацый журы, сустаршынямі якога з'яўляюцца намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Карлюкевіч і прафесар, член праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Саверчанка. Найлепшых назавуць у Дзень беларускага пісьменства ў Полацку. Пераможцы атрымаюць грашовую прэмію ў памеры 30 базавых велічынь. Але трапіць у шорт-ліст прэміі — гэта значыць атрымаць высокія адзнакі экспертаў, што таксама важна для папулярызацыі айчынных твораў літаратуры, — ці не гэта асноўная карысць прэміі для чытачоў?..

Магчымасць трапіць у шорт-ліст Нацыянальнай літаратурнай прэміі ёсць у кожнага, хто піша сам і лічыць свае творы вартымі высокай адзнакі ці чые работы ацанілі калегі з творчых саюзаў альбо чытачы бібліятэк, ці выдавецтва лічыць нейкую кнігу вялікай удачай...

— Нацыянальную літаратурную прэмію маюць права ўзяць усе, хто жадае і хто лічыць свае творы годнымі. Заяўкі прымаюцца ад фізічных асоб (кожны можа яе падаць асабіста ці праз афіцыйнага прадстаўніка), ад творчых саюзаў, выдавецтваў, рэдакцый і сродкаў масавай інфармацыі, арганізацый культуры і адукацыі, навуковых арганізацый і тых, хто вядзе дзейнасць у галіне мастацкай літаратуры і літаратуразнаўства, — адзначае **першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах.** — Усе зацікаўленыя ў тым, каб конкурс меў высокі ўзровень: гэта найлепшы паказчык таго, што літаратура Беларусі развіваецца. Арганізатары запрасілі шырокае кола аўтараў прадставіць найлепшыя творы сваёй літаратурнай творчасці, якія былі выпушчаны выдавецкімі арганізацыямі Беларусі ў 2016 годзе. Вядома, і Саюз пісьменнікаў Беларусі вылучае прэтэндэнтаў. Сёлета ў нас, здаецца, будуць прадстаўленыя амаль усе аддзяленні. Пісьменнікі ставяцца да вылучэння вельмі адказна, напрыклад, у Магілёўскім абласным аддзяленні адзначаюць, што на Нацыянальную літаратурную прэмію варта вылучаць сапраўдныя з'явы ў галіне літаратуры. А вось кнігавыдаўцы лічаць, што сам факт з'яўлення кнігі ўжо сведчыць пра яе высокі ўзровень. Напрыклад, Ліліяна Анцух (выдавецтва «Чатыры чвэрці») адзначала, што бывае нават складана вылучыць нейкую адну кнігу, калі выдавец лічыць усе вартымі ўвагі і высокай ацэнкі. Сёлета навідавоку большая актыўнасць з боку творцаў і арганізацый.

Заяўкі на Нацыянальную літаратурную прэмію прымаюцца па сямі намінацыях. Пакуль менш работ у намінацыях публіцыстыкі, драматургіі, літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства. На дадзены момант пераважная большасць заявак пададзены ў намінацыю дзіцячай літаратуры. Аўтараў, творы якіх вылучаюцца на прэмію ў намінацыі «Найлепшы твор для дзяцей і юнацтва», Саюз пісьменнікаў плануе прадставіць падчас сустрэчы ў адным з летнікаў: гэта было б жывое знаёмства з творчасцю найлепшых беларускіх дзіцячых пісьменнікаў.

Заснавальнікамі Нацыянальнай літаратурнай прэміі выступаюць Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Мінгарвыканкам і Саюз пісьменнікаў Беларусі.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Фестываль

# МОЦ ДУХУ



Касцёл Унебаўзяцця … ы Марыі.




Старажытны горад на Дняпры ў гэтыя свя… дні вітае гасцей, якія прыязджаюць у тым ліку дзел… ага, каб павіншаваць Магілёў з 750-годдзем. Узнёсла-ўрачыстае гучанне юбілейным мерапрыемствам надаў XXII Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа», які знаёміць зацікаўленых слухачоў з харавымі і вакальнымі калектывамі з краін блізкага і далёкага замежжа.

Канцэрты адбудуцца на плошчы Зорак, у Касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе дагэтуль захаваліся найкаштоўнейшыя фрэскі XVIII стагоддзя. Наведвальнікі маюць магчымасць праслухаць святочную імшу, а пасля наведаць канцэрт духоўнай музыкі ў выкананні лаўрэатаў міжнародных конкурсаў хору Рыжскага латышскага таварыства *«Austrums»* з Латвіі пад кіраўніцтвам дырыжора Арыйса Шцэпастса, хору Таварыства латышскай культуры *«Talava»* з Масквы пад кіраўніцтвам дырыжора Тамары Семічавай, камернага хору і аркестра Магілёўскай гарадской капэлы па… …рыжора Сяргея Лішчэнкі пры ўдзеле … …онкурсаў салісткі Маргарыты Пі… …юбімымі шэдэўрамі сусвет… …ебасцьяна Баха ды кантата … …чаць творы беларускіх аўта… …ывалі абмінуць «Магутны Божа» … …етна, што сучасны беларускі кам… …стварыў «Паў на калені дзень» на словы … …кі. Да ўвагі аматараў таксама — канцэрт ар… …кі і выступленне Даўгаўпілскага камернага аркес… …у *«Daugava»*.

… канферэнц-зале Магілёўскага кафедральнага сабора пройдзе навукова-практычная канферэнцыя «Праваслаўная кніга — шлях да духоўнасці». Падчас фестывалю ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы і шматлікіх дзіцячых бібліятэках працуюць кніжныя выстаўкі, прысвечаныя фестывалю і духоўнай культуры наогул. Мае адбыцца таксама прэзентацыя персанальнай выстаўкі магілёўскага фотамастака М. В. Шчудла «Жывіце з мірам. Жывіце ў міры» і канцэрт хору Дзіцячага цэнтра культуры Бялграда з Сербіі. Цягам усіх фестывальных дзён у горадзе працуе духоўна-асветніцкая выстаўка-кірмаш «Беларусь праваслаўная», у якой бяруць удзел прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны. Музычная духоўна-асветніцкая праграма «За ўсё табе, Творца, узношу хвалу» запрашае паслухаць выступленні хрысціянскіх груп і салістаў з Даніі, Ізраіля, Нігерыі, Латвіі, Малдовы, Беларусі, Расіі, Вялікабрытаніі, Узбекістана, ЗША, Грузіі, Сальвадора, Украіны, Арменіі. Дзяржаўны рускі народны хор імя М. Я. Пятніцкага знаёміць са сваім адметным мастацтвам у Палацы культуры вобласці, на Архіерэйскім вале адбудзецца свята званоў і ўзнагароджанне пераможцаў і ўдзельнікаў міжнароднага конкурсу харавых і вакальных калектываў.

**Марыя РУДОВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**30 чэрвеня** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**6 ліпеня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Лізаветай Палеес у Рэспубліканскі клінічны шпіталь інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны імя П. М. Машэрава (а/г Лясны). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**30 чэрвеня** — *на сустрэчу з пісьменнікам Фёдарам Гурыновічам у кнігарню «Жывое слова» (г. Салігорск). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**4 ліпеня** — *на сустрэчу з пісьменніцай і журналістам Аксанай Ярашонак у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у аздараўленчы лагер «Лясная казка» (Вілейскі раён). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**7 ліпеня** — *на сустрэчу з пісьменніцай Людмілай Круглік у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у аздараўленчы лагер «Нёман» (Стаўбцоўскі раён). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**11 ліпеня** — *на сустрэчу з пісьменніцай Ганнай Міклашэвіч у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у аздараўленчы лагер «Родничок» (Старадарожскі раён). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**30 чэрвеня** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Пінчукі» ў Пінскую цэнтральную раённую бібліятэку імя Я. Янішчыц. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**30 чэрвеня** — *на сустрэчу з пісьменнікам Васілём Ткачовым у краму «Кніжны свет» (г. Гомель). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**6 ліпеня** — *на музычна-паэтычную вечарыну «Буду пець не за славу...», прысвечаную 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, у Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці. Пачатак а 18-й гадзіне.*

# ТАКОГА ПАРЫЖА БОЛЬШ НЯМА

## Горад натхнення для Юозаса Будрайціса

Знакаміты літоўскі акцёр Юозаф Будрайціс не выпускае фотаапарат з рук з 1960 гадоў. Ён не робіць адмысловых выставачных праектаў. Здымае ўсе, што цікавіць. Не раз атрымлівалася, што кадры, зробленыя артыстам у розныя часы, пасля перарасталі ў цэласную фотаэкспазіцыю. Так атрымалася і цяпер: у Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» Юозас Будрайціс прэзентаваў выставачны фотапраект «Мой Парыж», які быў зняты яшчэ ў 1970 гады. Выстаўка прымеркаваная да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Літвой і Беларуссю.



У галерэю «Універсітэт культуры» фотавыстаўку «Мой Парыж» прывезлі з Віцебскага мастацкага музея. У экспазіцыі — каля пяцідзесяці здымкаў. Кожны дэманструе прыгажосць Францыі.

— Такога Парыжа больш не знойдзеш. Вядома, ёсць нейкія мясціны, якія можна пазнаць, але атмасфера цяпер не тая, — расказвае Юозас Будрайціс. — Гэтыя кадры ляжалі б на паліцы ўсё жыццё, калі б не мастацтвазнаўца Маргарыта Матулітэ. Мы працавалі з ёй над кнігай «Маё кіно». Пры адборы фатаграфій для кнігі знайшлі цэлую скрынку негатываў, на якіх быў Парыж. Маргарыта не дазволіла мне больш хаваць скрынку, арганізавала ў Вільнюсе выстаўку, падобную да перформансу. У экспазіцыі можна было нават убачыць паліто, у якім я блукаў па Парыжы.

Нягледзячы на тое, што фотавыстаўкі Юозаса Будрайціса пастаянна ладзяцца ў розных гарадах свету, аўтар не перастае называць сябе фатографам-аматарам. Лічыць, што яго густ занадта зменлівы, таму і не прэтэндуе на прафесіяналізм. Аднак з пункту гледжання гледача, можна адзначыць, што фотаработы акцёра вызначаюцца эмацыйнасцю, «жывым» настроем.

— У той час я фатаграфаваў усё, чым жыў, шукаў ва ўсім праўду, мяне хвалявала філасофія існавання — экзістэнцыялізм, пра які мы ў тыя гады не павінны былі ведаць, — адзначае Юозас Будрайціс. — Ён быў закрыты, забаронены. Гэтага кірунку крытыкі не прызнавалі, прыводзілі ў сваіх матэрыялах быццам бы недапушчальныя цытаты экзістэнцыялістаў, якія нам адкрывалі свет. Карл Ясперс, Віктор Гюго і нават Альбер Камю былі экзістэнцыялістамі. Мне было цікава, і хацелася далей адкрываць гэты свет. Калі з'явілася кніга Хэмінгуэя «Свята, якое заўсёды з табой», яна стала яшчэ адной нагода даведацца пра Парыж больш. Я паехаў, і ў 1977 годзе ўбачыў тое, чаго не бачыў ніколі: пазнаёміўся ў Луўры з творамі мадэрністаў, даведаўся, што такое кубізм, урэшце, проста гуляючы па вуліцах, адчуваў паветра, якім дыхаў Парыж. Тады для мяне гэты горад стаў сваім. Я не шукаў кадраў. Фатаграфаваў усё, што прыцягвала вока. Зараз, калі гляджу на сваю выстаўку, здаецца, што яна не мая. Яна была актуальная ў 1970-х і магла выклікаць эмоцыі тады — цяпер гэта проста фота.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Памяць*

# Дзякуй і даруй, дарагі сябра…



Уладзімір Дуктаў — чалавек асобага складу. Трэба было б напісаць — **быў** чалавекам асобага складу. Не атрымліваецца (рука нямее, калі набіраеш гэтыя тры жалобныя літары) — ён жыве, як і жыў, разам з намі ў сваіх выдатных творах. Шчыры, неўтаймоўны творца і кіраўнік. Чалавек вялікай душы…

Нарадзіўся Уладзімір Уладзіміравіч 28 снежня 1953 года ў г. Крычаў у сям'і служачых. Пасля школы скончыў факультэт журналістыкі БДУ, вышэйшую партыйную школу. З 1976-га працаваў карэспандэнтам клімавіцкай раённай газеты «Новае жыццё». Затым — лектар, намеснік загадчыка аддзела, а з 1980 года — загадчык аддзела Магілёўскага абкама камсамола. З 1982-га — загадчык аддзела Кастрычніцкага райкама партыі Магілёва, з 1984-га — інструктар Магілёўскага абкама партыі, з 1987-га —рэдактар магілёўскай раённай газеты «Прыдняпроўская ніва». У 1994-м абраны сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. З 2005 па 2006 г. — старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У друку і на радыё выступаў з 1986 года. Аўтар кніг прозы «Дзякуй і даруй», «Трэцяя асоба», «Смешкі-пацешкі» ды іншых. Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Галасы Прыдняпроўя», «Дняпроўскія хвалі», «Карані», «Прыдняпроўе — маё натхненне», у рэспубліканскай, пераважна літаратурнай, перыёдыцы...

Глыбока смуткуем з прычыны заўчаснай смерці шаноўнага калегі і выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

**Прэзідыум грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі»**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці вядомага празаіка, былога старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Уладзіміра Уладзіміравіча ДУКТАВА і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці пісьменніка Уладзіміра Уладзіміравіча ДУКТАВА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Гомельскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці пісьменніка, былога старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Уладзіміра Уладзіміравіча ДУКТАВА і выказвае глыбокае спачуванні сям'і нябожчыка.

Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці нашага калегі з Магілёва, пісьменніка Уладзіміра Уладзіміравіча ДУКТАВА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага пісьменніка Уладзіміра Уладзіміравіча ДУКТАВА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

## ЛіМ-каляндар

**27 чэрвеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Мануіла Юрэвіча (1927 — 2007), беларускага кінааператара, заслужанага дзеяча культуры БССР. З канца 1980-х гг. жыў за мяжой.

**28 чэрвеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Івана Кудраўцава (1922 — 2004), беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**28 чэрвеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Пятра Стэфановіча (1922 — 2006), беларускага празаіка, драматурга, перакладчыка.

**28 чэрвеня** 70 гадоў адзначыў Мікалай Сеўрукоў, беларускі баяніст, заслужаны артыст БССР.

**29 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Пятра Хатулёва (1912 — 1937), беларускага крытыка.

**30 чэрвеня** 50-годдзе адзначае Міхась Зізюк, беларускі пісьменнік. Піша на беларускай і рускай мовах.

**1 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Зоры Кіпель (1927 — 2003), грамадскага і культурнага дзеяча беларускай эміграцыі, літаратуразнаўца, перакладчыка, публіцыста, бібліятэказнаўца. Жыла ў ЗША.

**2 ліпеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Генрыха Вагнера (1922 — 2000), беларускага кампазітара, педагога, народнага артыста БССР.

**2 ліпеня** 70-гадовы юбілей святкуе Уладзімір Васюк, беларускі графік, плакатыст.

## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 50 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 70 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 3р. 00 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 60 к. | 63880 |

## *Дайджэст*

• У новым плане забудовы вуліцы Каліноўскага ў Мінску можа з'явіцца мемарыяльная зона з помнікам галоўнаму герою паўстання 1863 года. Праект забудовы вынесены на грамадскае абмеркаванне. Аднак Ірына Вабішчэвіч, начальнік аддзела гістарычнай забудовы і добраўпарадкавання камітэта архітэктуры, патлумачыла, што дэтальны план забудовы — гэта агульны кірунак развіцця тэрыторыі, і помнікі ў такіх дакументах не пазначаюць. Узгадненне і ўсталяванне помніка праходзіць па іншым плане. Кампанія па зборы подпісаў за ўшанаванне памяці паўстанца ладзілася яшчэ ў 2013 годзе. Тады свае подпісы паставілі амаль 4 тысячы чалавек.

• Царква Святога Кірылы Тураўскага ў Лондане трапіла ў шорт-ліст лепшых будынкаў горада. Паводле арганізацыі *New London Architecture*, беларуская царква прэтэндуе на ўзнагароду ў трох намінацыях: самы энергаэфектыўны будынак, «Культура і супольнасць», «Народны выбар». У кароткі спіс трапілі 160 праектаў новых будынкаў Лондана. Царква Святога Кірылы Тураўскага была збудаваная ў 2016 годзе каля Беларускай каталіцкай місіі і стала першым драўляным храмам Лондана з 1666 года. Адначасова царква з'яўляецца помнікам ахвярам трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. Раней беларускі храм атрымаў прэмію Каралеўскага інстытута брытанскіх архітэктараў, а таксама трапіў у лік 50 найлепшых будынкаў Лондана.

• Брытанскі акцёр Дэніэл Дэй-Льюіс абвясціў пра сыход з кіно. Гэта стала вядома з заявы, апублікаванай агентам акцёра. Дэніэл Дэй-Льюіс — трохразовы лаўрэат прэміі «Оскар» за найлепшую мужчынскую ролю, за фільмы «Мая левая нага» (1989), «Нафта» (2007) і «Лінкальн» (2012). Сваю першую ролю Льюіс сыграў яшчэ падлеткам, а ўвогуле на рахунку акцёра не так шмат фільмаў: ён абачліва падыходзіў да выбару кінапраектаў, здымаўся раз на тры — пяць гадоў. Сярод іншых вядомых работ Льюіса — «Апошні з магікан», «Баксёр», «Банды Нью-Ёрка». Сёлета выйдзе апошні фільм з яго ўдзелам — «Прывідная нітка» Пола Томаса Андэрсана, у якім гаворка ідзе пра свет моды ў Лондане 1950-х гадоў.

• Невядомыя пашкодзілі скульптуру Маленькага прынца, усталяваную ў Магілёве. Урачыста прэзентаваць скульптуру планавалі 28 чэрвеня ў Камсамольскім скверы на Дзень горада. Ідэю скульптуры яе аўтар Андрэй Вераб'ёў выношваў дзесяць гадоў. Ён вядомы шэрагам гарадскіх скульптур: гэта гімнастка перад магілёўскім Палацам гімнастыкі, магілёўскія львы, антрапаморфны агурок у Шклове, заканая студэнты ў Горках. Таксама Андрэй Вераб'ёў прапануе Магілёву ўшанаваць скульптурай легендарнага Машэку.

• Урачыстая цырымонія ўручэння Дублінскай літаратурнай прэміі адбылася 22 чэрвеня. Атрымаць прэмію з прызавым фондам у сто тысяч еўра можа прадстаўнік любой краіны. Галоўнае, каб празаічны твор, за які даецца ўзнагарода, быў напісаны па-англійску. Сёлета журы высока ацаніла раман «Агульная тэорыя забыцця» ангольскага пісьменніка і журналіста Жазэ Эдуарда Агуалуза. Сюжэтам кнігі сталася гісторыя дзяўчыны, якая насуперак страхам вайны спрабуе прыстасавацца да рэальнасці. Лаўрэатам іншай прэстыжнай узнагароды — міжнароднай Букераўскай прэміі — стаў ізраільскі публіцыст Давід Гросман. Узнагароду яму прынёс раман «Конь заходзіць у бар». Букераўскую прэмію можа атрымаць аўтар, чый твор мае пераклад на англійскую мову. Аўтар і перакладчык традыцыйна падзяляюць між сабой прэмію ў памеры 50 тысяч фунтаў.

*Палачане*

# Жыццё як подзвіг



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Першы раз гэтую легендарную жанчыну я ўбачыў, калі мне было дваццаць гадоў. Тады я працаваў карэктарам у полацкай газеце, пісаў першыя заметкі, і аднойчы наш рэдактар Іван Фёдаравіч Лемеш паслаў мяне зрабіць інтэрв'ю з Героем Савецкага Саюза Зінаідай Міхайлаўнай Тусналобавай-Марчанка.

У доміку на беразе Заходняй Дзвіны мяне сустрэў прыгожы ветлівы мужчына — муж Зінаіды Міхайлаўны і правёў у пакой. Гаспадыня сядзела за сталом і перабірала пошту. Я не мог адвесці позірк ад яе рук — не, гэта былі не рукі, гэта былі абрубкі, без кісцяў і пальцаў, але жанчына так увішна і спрытна перакладвала канверты, даставала лісты, што не было ўражання, што гэта бязрукі інвалід.

Шчыра кажучы, не надта нават памятаю ўсю тую нашу размову, бо, седзячы перад легендарнай, вядомай усяму Полацку гераіняй, было такое хваляванне, што нават голас дрыжэў.

Ды што Полацку! Пра Зіну Тусналобаву ведалі тысячы ва ўсім былым Савецкім Саюзе і за мяжой, бо яна — адна з трох савецкіх медсясцёр, хто атрымаў вышэйшую ўзнагароду Міжнароднага Чырвонага Крыжа — медаль Флоранс Найтынгейл.

Канешне, сёння я б, напэўна, пагаварыў з Зінаідай Міхайлаўнай больш падрабязна, больш сардэчна, але, што паробіш, часу не вернеш. Затое ўспамін пра тую гутарку і пра светлую асобу гэтай мужнай гераічнай жанчыны жыве ў маёй душы і па сённяшні дзень.

У 1941 годзе беларуска Зіна, юнацкія гады якой прайшлі ў далёкім Кузбасе, закончыўшы курсы медсясцёр, добраахвотна пайшла на фронт змагацца з гітлераўцамі. У першых двух баях вынесла з поля бою 40 параненых салдат і афіцэраў, а за восем месяцаў кровапралітных баёў выратавала ад гібелі 128 байцоў. У лютым 1943 года была цяжка паранена сама. Амаль год медыкі змагаліся за яе жыццё. Перажыла ампутацыю рук і ног.

Са шпіталя звярнулася да суайчыннікаў: «Хай гэты ліст дойдзе да сэрца кожнага з вас. Гэта піша чалавек, якога фашысты пазбавілі ўсяго — шчасця, здароўя, маладосці…» А выступаючы на заводзе, які быў побач са шпіталем, дадала да тэксту звароту словы: «Таварышы, я вас вельмі прашу: калі можна, зрабіце за мяне хаця б па адной заклёпцы для танка». І рабочыя гэтага завода выпусцілі дадаткова пяць танкаў з надпісам «За Зіну Тусналобаву».

Яна выступала па радыё і на старонках газет, прасіла адпомсціць за родны Полацк, за шматпакутную беларускую зямлю, за сваю знявечаную маладосць. Не пакінуў каханую Іосіф Марчанка, з якім яны пабраліся шлюбам, вярнуліся ў родны Полацк, нарадзілі дзяцей.

Яна была актыўнай у грамадскім жыцці горада, паказвала ўзоры сапраўднай чалавечай годнасці і трываласці. Навучылася пісаць, перасоўвалася на пратэзах, перапісвалася з сотнямі людзей з Японіі і Францыі, Канады і многіх гарадоў і вёсак Беларусі, Расіі, Узбекістана, Арменіі…

Яе імя сёння носіць Полацкі медыцынскі каледж, вуліца. На Віцебшчыне заснавана прэмія жанчынам у яе гонар, у Маскве, у музеі-кватэры Мікалая Астроўскага, размешчаны стэнд, прысвечаны яе мужнасці.

Пра яе створаны творы многія пісьменнікі і журналісты, здымалі фільмы, але яна заставалася простай і даступнай, сапраўднай палачанкай. І нельга ўявіць сёння Полацк без сціплага дамка-музея, у якім жыла і працавала гэтая легендарная жанчына.

*Незабыўнае*

# ЛЕГЕНДА ПРА ІКОНУ

Калі аднойчы немцы з'явіліся ў вёсцы Панышэўшчына, што на Лагойшчыне, то яе жыхары падумалі: спатрэбіліся акупантам сала ды яйкі. Разам са старастай ворагі пахадзілі па хатах і назбіралі прадуктаў, але мэта ў іх была іншая. Як высветлілася пазней, прыехалі выбраць лепшыя дамы для пастою салдат.

Чацвёра немцаў на чале з афіцэрам прайшлі ўсю вёску. Афіцэр выбраў дзве хаты і загадаў старасту высяліць адтуль гаспадароў. Людзі вымушаны былі перайсці да сваякоў. Праз дзень прыехалі салдаты. У адным доме яны зрабілі кухню, у другім — ахоўны пост.

У суседняй з першым домам хаце жыла са свякроўкай жанчына з рэдкім імем Уліма. Калі пачалася вайна, яна з дзецьмі пераехала сюды: са сваякамі лягчэй перажыць ліхалецце. А дом, які немцы занялі пад кухню, належаў яе дзядзьку. Кухонную каманду ўзначальваў ужо немалады кухар. Хоць ён гаварыў толькі па-нямецку, мясцовыя жыхары зразумелі, што ў яго ў Германіі трое дзяцей, па якіх ён вельмі сумаваў. Другія салдаты, памочнікі кухара, гаварылі крыху па-польску. Так і вёўся дыялог паміж вяскоўцамі і салдатамі.

Усё гэта адбывалася летам 1942-га. Вясковыя дзеці, відаць, нагадвалі кухару ўласных. І вось аднойчы ён паказаў ім жэстамі, каб прынеслі кацялкі: наліў рэшткі наварыстага гарохавага супу. Уліма таксама прыходзіла з малой дачкой.

Салдаты тлумачылі вяскоўцам, што не хочуць ваяваць, але іх мабілізавалі. Праз месяц нечакана загарэлася хата, дзе была кухня. Немцы гатавалі ежу ў звычайнай сялянскай печы і не сачылі за ёю. У тую хвіліну ў хаце нікога не было: кухар якраз выйшаў на вуліцу.

Саламяны дах успыхнуў як свечка. Салдаты разумелі: сёння яны сапсавалі абед афіцэрам і за гэта іх не пахваляць…

Усе бачылі: дом ужо не ўратаваць, а вось суседні — яшчэ можна. Пачалі абліваць вадою сцены, але дах у любы момант мог загарэцца. Уліма з дачкою з трывогай глядзела на пажар і прасіла Бога, каб захаваў яе дом, бо вецер дзьмуў менавіта ў іх бок.

Кухар назіраў, як жыхары вёскі намагаліся выратаваць свае хаты. Раптам ён штосьці ўспомніў, падбег да Улімы і пачаў нешта хутка гаварыць. Неўзабаве крыкнуў папольску: «Ікона!»

Жанчына зразумела: трэба прынесці ікону, можа, яна дапаможа спыніць пажар. Хуценька збегала дамоў і прынесла абраз. Гэта была звычайная ікона, але старадаўняя і крыху пацямнелая ад часу.

Немцы ўбачылі абраз і жэстамі паказалі жанчыне стаць спіною да дома, які яшчэ не загарэўся, а ікону несці лікам наверх — каб глядзела на агонь. Уліма панесла абраз уздоўж дома, які гарэў, вярталася і зноў ішла. Так некалькі разоў: толькі б адвесці агонь ад свайго дома. Ідучы, яна ўвесь час чытала ўголас малітву. Нечакана вецер змяніў напрамак — бяда адышла.

Абраз зноў усталявалі ў Чырвоным куце. Гэта была ікона Божай Маці. Пасля вайны яна доўгі час знаходзілася ў Панышэўшчыне, але потым абраз перавезлі ў горад. А вяскоўцы распавядаюць легенду пра ікону, якая абараніла сялянскія хаты ад агню.

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ**

*Чароўная Беларусь*

# СКЛЕП

Пад густым кустом бэзу стаяла старая, шырокая, дзе-нідзе з вялізнымі шчылінамі лаўка. Праз двор — хата ў два канцы з блакітнымі ліштвамі на вокнах. На другім канцы двара — гаспадарчыя пабудовы. За спіной — старэнькі сад з антонаўкай, і ў глыбіні яго бачны непрыкметны сярод шчыльнага малінніку склеп.

Пытаюся ў гаспадара, ці можа ён распавесці пра склеп што цікавае.

— Чаму ж не? — адказвае ён і пачынае пра… сваю нябожчыцу-гаспадыню: — А нешта, ведаеш, без яе дык і мала што ў рот лезе. Удваіх іншая справа была, весялей. Што не пастаў на стол — усё смачна. Каб ты ведаў, як спрытна яна па гаспадарцы спраўлялася. Павер, не перабольшваю. Такую гаспадыню пашукаць… Яшчэ вось, бывае, спушчуся ў наш склеп, ну як быццам што ўзяць трэба… Гуркі ў слоіках убачу… дык нейкі тлум у галаву лезе. Быццам вось зараз паднімуся, а мая руплівіца, Настачка мая…

Тут ён адвярнуўся да старога саду, глыбока ўздыхнуў і затрымаў паветра ў грудзях.

— Там, унізе, у цемры склепа, праз лаз у столі струменіць святло, а я стаю, гляджу ўгару і… чакаю. Можа, пачую, як цераз парог пераступае. Яна павольна схіліцца і скажа: «Ты што там, гуркі трушчыш? А мо бутэльку дзе схаваў? У бульбе? Ці моркваў прысыпаў? Ой спушчуся зараз, усю, што засталася, за каўнер вылью. Стары, а звычак не кідаеш! Што маўчыш?» Бывала і так… А калі я і надалей не адказваю, Настачка, трохі памаўчаўшы, нахілялася да лаза і заклапочана, ціхенька пыталася: «Мо здарылася што, маўчыш чаго, адгукніся, даражэнькі».

Ну я, вядома, тут жа і з'яўляюся. І адразу атрымліваў па патыліцы так, што шапка з галавы ўніз ляцела, — і зноў у цемру склепа за ёй. А Настачка, яшчэ больш раззлаваўшыся, ужо са двара, ідучы ў хату, гучна гаварыла, што я сваім маўчаннем яе з сябе выводжу, што вось цяпер у яе сэрца трапеча, што зараз сярод двара і паваліцца, і хай бачаць суседзі, да чаго я яе давёў…

А агуркі я ў склепе пакідаю. Бо, здаецца, калі з'ем, то на гэтым і скончацца мае прывіды…

І яшчэ распавядаў дзядулька пра гаспадарку, агароды, замшэлую студню, каморку, у якой столькі ўсяго было, што нават нешта адтуль прадавалі, і пра новую сям'ю буслоў, якая прыляцела сёлета. Леташнія, пэўна, як і людзі, састарэлі, а мо па дарозе загінулі дзесьці. І, зразумела, пра гэты склеп у старым садзе.



Раптам вельмі захацелася параўнаць гэтага старога з яго склепам. Колер яго адзення быў падобны да колеру бярвенняў будовы. Постаць, здавалася, такая ж нізенькая і прытуленая да зямлі. А яшчэ і сад падобны да іх дваіх: схілены галлём долу, да старэнькай хаты і двара.

Да нашай размовы склеп быў самай непрыкметнай пабудовай у гаспадарцы. Цяпер я яго бачыў іншым. Роўнай часткай усяго вакол, нават быццам працягам самога гаспадара. Усё пакуль яшчэ было цэлым, нават калі не стала гаспадыні. Бо застаўся яшчэ ён — гаспадар, як нейкае адназначнае звяно ў гэтым ужо кволым і амаль ушчэнт зношаным ланцужку.

...Машына павольна кацілася прэч ад вёскі. Каля задняга сядзення на падлозе плюхаліся ў слоіку агуркі.

— Гасцей з пустымі рукамі нельга адпускаць, — казаў на развітанне гаспадар, дастаючы са старога склепа гасцінец. Так мы з Настачкай заўсёды рабілі, хай так будзе і цяпер.

**Уладзімір ЦВІРКА,**
**фота аўтара.**

# Паэтка, модніца, красуня

## і ўрэшце — проста Жэня Янішчыц

**Пад'язджаеш да Парэчча, бачыш рэчку Ясельду — і разумееш, адкуль бралася натхненне на прыгожы палёт у нашае Ластаўкі. Чарговае літаратурнае падарожжа, арганізаванае Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, выправілася на радзіму Яўгеніі Янішчыц.**

Нарадзілася яна ў вёсцы Рудка. Хата бацькоў Янішчыц стаіць дасюль. Цяпер у ёй жыве іншая сям'я. На самой хаце — памятная шыльда. А вось музей Яўгеніі Янішчыц знаходзіцца ў суседнім Парэччы, у вёсцы, дзе паэтку пяшчотна завуць «наша Жэня». У мясцовай школцы Яўгенія вучылася, пісала першыя вершы. Музей паэткі захоўвае гэтыя спробы, аднaчасова асцярожныя і смелыя, пачаткоўскія і яркія.

Збіральніцтвам музея займаўся адзін-адзіны чалавек — мясцовая настаўніца Антаніна Сідарук. Каля васьмі гадоў яна знаходзілася ў бесперапынным пошуку: тэлефанавала, дамаўлялася, ехала ў невядомасць...

Аднак пра сябе Антаніна Паўлаўна не распавядае. Ну так, працавала. Так, збірала. Дзіва, што раскрыла яшчэ адно сваё захапленне: колькі гадоў збірае перліны м... вай гаворкі. У звычайным сшытку яна захоўвае моўны скарб, якім аднойч... неная, скарыстаецца Акадэмія навук. Пакуль жа ён ціха ляжыць у шуф...

З Янішчыцамі Антаніну Сідарук яднае далёкае сваяцтва. Зрэшты... вёсцы: усе адно адному калі не браты, дык сваты. На літаратурнай імпрэзе, якой пачалася сустрэча ў Парэччы, прысутнічалі і прамыя сваякі Янішчыц — пляменніцы паэткі, якія жывуць тут жа. Напачатку жанчыны саромеюцца, нясмела ўсміхаюцца. Потым распавядаюць процьму цікавых рэчаў: пра сучаснае Парэчча, пра пана Скірмунта, якога дасюль згадваюць добрым словам і называюць выдатным гаспадаром, пра стан архітэктурнае спадчыны гэтых мясцінаў. Зноў жа, пра сябе — мала. Дзякуючы ... арэчы, мы займелі магчымасць наве... традыцыйнай культуры і быту «С...». Мы — гэта нязменны пра... агадчык адукацыйнага ...ўка і яе калегі; паэты ...ва ды журналісты.

...айперш — музею ...псавы помнік паэтцы, ...а ўсталяваная на месцы яе



ЛІТАРАТУРА АЎТОРАК

### 10 ПОГЛЯДАЎ НА РЭЧЫ

**1.** Галоўнае ў музеі, вядома, — літаратурны талент Я... геніі Янішчыц. Пачатак яго — у рукапісах. Калі не брац... пад увагу паасобныя аркушы з роўненькім почыркам, якім выводзіліся вершы пазнейшыя, хрэстаматыйныя, перш-наперш варта звярнуцца да ранніх рукапісаў. Уласна, дэбютным зборнікам вершаў Яўгеніі Янішчыц можна лічыць «Першыя россыпы» — рукапісны альбом, на вокладцы якога так і пазначана: для вершаў. Для юнай Жэні мелі значэнне не толькі вершы, але й іх аздабленне. Там падкрэсліць, тут правесці хвалю, тут вылучыць колерам. Тыпова дзявочы альбом, з аднаго боку. Тут нават ёсць тэкст песні «Веры Харужай» на музыку Ю. Семянякі. З іншага боку — музейная рэліквія, бясцэнны экспанат, дзе рукою самой Яўгеніі сцвярджаўся літаратурны талент. Альбом датуецца 1963 годам і захаваўся самым лепшым чынам. Пры тым, што ляжыць ён не пад шклом. Падчас экскурсіі альбом смела гарталі (ад такога відовішча ў музеі таго ж Броўкі пападалі б у непрытомнасці).



Яшчэ адзін падобны экспанат — сшытак з вершамі. Адрозніваюць яго прадмовы да твораў, якія пісала сама Янішчыц. Гэты «зборнік» зусім яшчэ няспелы, у ім багата рускамоўных тэкстаў, і падобныя сшыткі вы можаце знайсці на гарышчах у сваіх бабуляў. Але гісторыі, якія будучая паэтка распавядае шчыра, з такой дзіцячай даверлівасцю, безумоўна, кранаюць.

**2.** Адна з першых «афіцыйных» публікацый Яўгеніі Янішчыц — падборка ў рубрыцы «Будзем знаёмы» ў «Літаратуры і мастацтве». Прадмову да нізкі пісаў Генадзь Бураўкін. «Не, удачы былі не выпадковыя, — піша Генадзь Мікалаевіч. — Жэня Янішчыц, безумоўна, мае паэтычныя здольнасці, родная наша зямля беларуская кінула ў яе душу "іскру боскую". Толькі трэба не загубіць гэтую "іскру", не патушыць яе на нялёгкай дарозе ў літаратуру. Трэба — як гэта ні банальна гучыць — шмат працаваць. Каб пазбавіцца той літаратуршчыны, якая даволі часта гаспадарыць нават у добрых вершах...» Я нездарма прыводжу такую вялікую цытату. Адрасую яе паэтам новай генерацыі: не слухаеце сучасных крытыкаў — паслухайце Бураўкіна.

У тую падборку ўвайшлі вершы «Радзіме», «А неба такое зорнае!..», «Мой верш», «На рацэ», «А жнівень косы мне няшчадна выпаліў...», «Золушка». Ім уласцівыя вялікі творчы энтузіязм і пэўная наіўнасць у інтанацыях, фармальнай будове верша — словам, тое, пра што казаў Бураўкін. І быў, вядома ж, талент.




**3.** Пра дзелавы бок жыцця летуценніцы сведчыць рэч аднaчасна прыгожая і суворая: скураны партфель, на якім адціснута «VII з'езд пісьменнікаў Беларусі. Красавік 1981 г.». З такім партфелем міжволі адчуеш сябе значнай часткай літпрацэсу.

**4.** Зусім інакшыя дамскія сумачкі Яўгеніі. Вось яркая, святочная, з бісернай вышыўкай. Вось строгая і элегантная, пэўна, для якога-небудзь пасольскага прыёма. Ці для прадстаўнічай камандзіроўкі. Але й тая, і тая выяўляюць вытанчанасць, добры густ паэткі, а найперш — жанчыны.



**5.** На тое ж указваюць аксесуары — тоненькія вузкія пальчаткі, якія кажуць пра такія ж пяшчотныя, далікатныя рукі гаспадыні. Ці вось гэтая насоўка: ружовая, паветраная, прызначаная не столькі для наўпроставай сваёй ролі, колькі для таго, каб элегантна абмахвацца ёю ў душнай зале пасяджанняў Саюза пісьменнікаў...



**6.** Важны дакументальны экспанат — пасведчанне аб нараджэнні Яўгеніі Янішчыц. Унікальная рэч, якая захоўваецца, аднак, проста, без шкла і сігналізацый. Ты як быццам прыйшоў дадому да паэткі і гартаеш яе сямейны альбом — з яе ж дазволу. У музеі, сабраным Антанінай Сідарук, нягледзячы на яе ўласную знешнюю строгасць, пануе хатняя атмасфера, свойская.

**7.** Вельмі сімвалічнай бачыцца частка экспазіцыі, якая сабрала значкі Яўгеніі Янішчыц. Яны «кропкавымі ўдарамі» адлюстроўваюць тры бакі жыцця паэткі. На першым напісана «Пінск». Так, Жэня заўжды вярталася дадому, заўжды імкнулася сюды, на родную Піншчыну, пра што пісала ў вершах, асабістых нататках, пра што распавядала блізкім, што згадваюць сёння тыя, хто яе ведаў. Другі значык — пасведчанне пра прыналежнасць да Згуртавання кнігалюбаў. У начытанасці ды эрудзіраванасці Яўгеніі Янішчыц сумнявацца не выпадае. А трэці кірунак жыцця — грамадскі. Сёння вядома, што Янішчыц шчыра і ўсур'ёз успрымала тагачасную ідэалогію, што, магчыма, сталася прычынай яе асабістай драмы, канец якой быў трагічны. Вось ён, значык з профілем Леніна і подпісам «ВЛКСМ».

**8.** Аднак перад трагедыяй было вялікае шчасце. Успамінам пра яго — вясельны вяночак, у якім спалучыліся традыцыйнае і моднае, крывіцкі вянок і заходнееўрапейскі вэлюм. Побач — запрашэнне на вяселле, адрасаванае сям'і Гілевічаў. На запрашэнні бачым маладых — шчаслівых, закаханых, не раз'яднаных непаразуменнямі.

**9.** Актыўнае пісьменніцкае жыццё давала й простыя жаночыя радасці. Вось, прыкладам, замежныя туфлі. Замш. Венгерскія. Такія б і сёння насіць з вялікім задавальненнем. Модніцу Янішчыц «выкрывае» яе гардэроб: паліто з густоўна падабранымі шалікамі, стрымана-сціплыя боцікі, паветраная кашуля... Сапраўды — ластаўка.



**10.** Але лічыць яе ахвотніцай да замежных «капіталістычных» прыўкрасаў нявартa. Бытнасць у Савецкім Саюзе накладала свой адбітак. Былі ў Яўгеніі Янішчыц рэчы, якімі карысталіся мільёны такіх жа самых дзяўчат, жанчын. Вось, прыкладам, драўляныя каралі. Такія пачкамі прадаюцца на сучасным Славянскім базары ў Горадзе майстроў. Вось — маленечкае люстэрка, без рамкі, проста-такі кішэнны стратэгічны аб'ект ваяркі, чыя зброя — прыгажосць.

...Агледзеўшы экспазіцыю, пачынаеш бачыць тую Янішчыц — вечна юную, натхнёную дзяўчынку, якая любіла прыгожае, хацела быць прыгожай і рабіла беларускі свет прыгажэйшым — сабою і сваімі вершамі.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**фота аўтара**



Міхась ПАЗНЯКОЎ

## У бары дзяцінства

*У бары майго дзяцінства*
*Льецца птушак звонкі грай.*
*Дыхай водарам смалістым*
*І душою спачывай.*

*Сонца грэбенем чароўным*
*Чэша соснам кудзяркі.*
*Там, духмяныя, спакойна*
*Спачываюць вецяркі.*

*Там маліна — аж іскрыцца*
*І арэхі — смаката!*
*Скачуць жвавыя куніцы*
*І вавёркі ў промнях там.*

*Шапацяць таемна крокі*
*Ад рабінавай зары:*
*Ходзіць хлопчык яснавокі*
*У блакітным тым бары.*

*Убірае ў сэрца гамы,*
*Фарбы, пахі, цішыню...*
*Прыязджаю я ад мамы*
*І яго заўсёды сню.*

***

*Зноў кліча мяне пуцявіна*
*Да матчынай згорбленай хаты,*
*Там дзесьці мая пупавіна*
*Пад бэзам густым і бухматым.*

*Зноў птахам самотным да слёзаў*
*У кут дарагі пакрыляю,*
*Бацькі там мае між бярозаў*
*Пад жвірам цяжкім спачываюць.*

*Пытанняў не трэба мне дзіўных.*
*Чаму? Ці надоўга? Бо, мусіць,*
*І сам адказаць я бяссільны,*
*Калі мяне край мой адпусціць.*

***

*Белым воблакам бэз пад акном*
*Расквітнеў каля мамінай хаты.*
*Я сяджу за пісьмовым сталом*
*І любуюся ім, сумнаваты.*

*Кветкі цёплай пяшчотай звіняць,*
*Чысты водар захмельвае сэрца,*
*Нібы маміны вочы глядзяць,*
*Усміхаюцца ветла з сукведця...*

*Як даўно маёй мамы няма...*
*Ды чамусьці на міг падалося,*
*Быццам мне мая мама сама*
*Гэта дзіва прыслала з нябёсаў.*

*Адчыняю акно, як у сне,*
*І па кветкі духмяныя лезу.*
*І здаецца — матуля мяне*
*Абдымае галінкамі бэзу.*

## Мама

*Лагоднасцю, святлом і дабрынёй*
*Ты з летам цёплым маеш падабенства*
*І кожны раз у памяці маёй*
*Нібыта зноў вяртаеш мне маленства.*

*Палоняць міла вочы-васількі,*
*Нібы да сонца, да цябе тулюся.*
*Тваёй ласкавай, цёплае рукі*
*Не адчуваць, як некалі, баюся.*

*Матуля незабыўная мая,*
*Гаючаю пяшчотаю вясны*
*Здалёк усмешка светлая твая*
*Расквечвае жыццё маё і сны.*

*Хоць быў удзячным сынам я, аднак,*
*Здаецца, недадаў сваёй любові,*
*Складаю табе песні, ды ніяк*
*Не падбяру заслужаныя словы.*

*У гэтых песнях гучнасці няма,*
*Ні пафасу высокага таксама.*
*Яны затое з сэрца, дзе сама*
*Жывеш ты, мая сонечная мама.*



Воля ЧАЙКОЎСКАЯ

## Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

***

*я хацела б ператварыцца ў журавіну*
*або ў кроплю вады*
*зліцца з ландшафтам*
*згубіцца ў лесе*
*застацца тут назаўжды*

*я хацела б зрабіцца разгубленай*
*і бездапаможнай*
*згубіць квіток*
*пашпарт*
*забыцца на асцярожнасць*

*я хацела б развучыцца плакаць*
*наогул забыць што такое слёзы*
*зразумець як правільна і не балюча*
*але не заўжды выходзіць*
*або проста інакш не можна*

*я хацела б зрабіцца руж овай*
*або фіялетавай кветкай*
*такой якія растуць каля твайго дома*
*слухаць дзіцячы смех*
*вымяраць глыбіню дзён*
*будаўнічай рулеткай*

*я хацела б сыходзіць*
*але заўжды да цябе вяртацца*

*размаўляць*
*бачыць*
*дакранацца*

***

**В.**

*нейкія вершы пачыналіся так ужо*
*не аднойчы*
*з геаметрыі архітэктуры водарэў*
*і крыніцаў*
*я хачу цябе ўсяляк*
*я хачу цябе лежачы і стоячы*
*я хачу з тваіх неўтаймоўных*
*крыніцаў напіцца*

*гэты агонь на далягядзе будзе*
*гарэць спрадвечна*
*як подзвіг я ведаю*
*ён будзе гарэць столькі колькі я*
*буду дыхаць*
*сум у маіх валасах будзе сівець слабець*
*і нядолець*
*пакуль не пераробіцца ў юнацкую*
*прыхамаць*

*што ж мне існці галасіць па гэтым*
*белым снезе кульгаючы*
*што ты мне скажаш калі скончацца*
*ўсе адлегласці*
*ты мне здрадзіш заб'еш скрадзеш*
*не міргаючы*
*гэта ёсць мой шлях да свабоды*
*і непазбежнасці*

## Не тое

*Цяпер я вырасла, пасталела*
*І больш не баюся дарослых словаў.*
*Цяпер я белае называю белым,*
*Чорнае — чорным.*
*Цяпер у тваіх маналогах жорсткіх*
*Няма для мяне невядомых месцаў.*
*А марозіва неяк хутчэй,*
*Не так, як у дзяцінстве, есца.*
*Цяпер і з мыльнымі бурбалкамі*
*не пагуляеш.*
*Не зразумеюць шчырасць парыву,*
*Палічаць або ідыёткай, або*
*дзяўчом-падросткам.*
*Не тое што раней,*
*Калі было невыносна проста!*
*Цяпер адчуваю сябе жырафай або*
*Эйфелевай вежай.*
*Або ўсёй адразу камандай прайграўшых*
*На неабсяжным футбольным манежы.*
*Цяпер саромеюся прыступаў шчасця.*
*Дакараю сябе, думаю, што*
*незаслужана.*
*Не тое што раней,*
*Калі пачувалася шчаслівай без*
*дай прычыны*
*І не капалася ў сабе дужа.*
*Цяпер паглядзіш на неба, а там —*
*Нейкія цэпеліны, хранатопы, алюзіі.*
*Не тое што раней,*
*Калі здавалася — усё наперадзе.*
*І будаваліся планы,*
*І расцвіталі вясной ілюзіі.*

***

**В.**

*Калі мы сустрэнемся зноў*
*Не ведае ніхто*
*Ніхто*
*Ні вада гэтая*
*Ні мора*
*Ні глеба*
*Ты кахаеш здалёк*
*Без дотыкаў і слоў*
*Уяўна дакранаючыся да маіх вуснаў*
*Кожны вечар перад сном*
*І абдымаючы мяне за тонкія рэбры*
*Я буду танчыць з табой на караблі*
*Што плыве на нейкі аддалены востраў*
*Толькі для нас дваіх*
*Некалі*
*Некалі*



Валянціна ПАЛІКАНІНА

## Карціна маленства

*«Куды вас ліхія вятры занеслі?*
*Пара ўжо аднойчы спыніцца!» —*
*Нязваныя госці раптоўна прыйшлі.*
*«Сцяпан дзе?» —*
*«Пайшоў па вадзіцу...»*
*Дзед знешне спакойны, яшчэ не стары.*
*Ён пахне смалою і хлебам.*
*У дужых руках — два цяжкія вядры,*
*Дзе радасна плешчацца неба.*
*Не раз у жыцці пацярпелы ад зла,*
*Прывыклы змагацца са смерцю,*
*Ён ведаў: вадзіца чысцюткай была —*
*З калодзежа самага сэрца.*
*Вады я такой не піла анідзе,*
*Яе караную на царства.*
*Яна апякала няйдобрых людзей,*
*А добрым была як лякарства.*
*Праз столькі завеяў, гадоў і вятроў*
*Карціна маленства са мною:*
*Дзед з лёгкай душой напаўняе вядро,*
*Каб свет напаіць чысцінёю.*

***

*Льюць дажджы. Што ні дзень —*
*то мацней і мацней.*
*На паўсвету вятры куралесяць...*
*Я — пясчынка, ды ўсё-ткі*
*прыглядзься пільней:*
*Вунь я, там, за арлоўшчынскім лесам.*

*Хай хоць сто праляціць, прабяжыць*
*зім і лет*
*Пад ракіты вільготлівым веццем,*
*На сцяжынках лясных застанецца*
*мой след:*
*Там не раз я страчала досвецце.*

*...Бачу дзеда з кашом, што паўнюткі*
*грыбоў,*
*Бабку з хлебам — жылі-выжывалі...*
*Там два лёсы калісьці — за даллю*
*дажджоў —*
*Адгарэлі, ды пылам не сталі.*

**Пераклад Міколы ШАБОВІЧА**



Аляксандр ШЛЕЯНКОЎ

## Буйніцкае поле

*На полі Буйніцкім узведзена капліца.*
*На прыгажосць яе няможна надзівіцца.*
*Але пастаўлена яна не для красы,*
*А каб нагадваць пра ваенныя часы,*
*Калі ў суровы сорак першы год*
*Фашысты пачыналі шлях свой на Усход.*

*Ішлі, упэўненыя ў хуткай перамозе.*
*Усіх маглі разбіць, хто стане на дарозе.*
*Калі скарыліся Парыж, Бялград,*
*Варшава —*
*Ужо без перашкод дакрочаць да Урала!*
*І вось заняты Гродна, Віцебск, Львоў.*
*Хацелі захапіць яшчэ і Магілёў.*

*Наш любы Магілёў! Нязгасны*
*подзвіг твой.*
*Ты не схіліўся перад чорнаю ардой.*
*Пачуе свет пазней пра Курск*
*і Сталінград,*
*Пра мужную Маскву і стойкі Ленінград,*
*А тут стальны таран яшчэ раней*
*спыніўся,*
*Бо сорак танкаў ён за дзень недалічыўся.*

*На полі Буйніцкім узведзена капліца.*
*На прыгажосць яе няможна надзівіцца.*
*Але пастаўлена яна не для красы,*
*А каб нагадваць пра ваенныя часы,*
*Калі упершыню паверыла краіна:*
*Вайна закончыцца на вуліцах Берліна!*

## Родны край

*Край мой сінявокі, родная старонка!*
*Збажына у полі, рэчкі і лясы.*
*Колас і Купала славяць цябе звонка,*
*Не забыць ніколі мне тваёй красы.*

*А кагосьці вабяць іншыя краіны...*
*Хай і Тэмза з Рэйнам хвалі там нясуць,*
*У маім жа сэрцы толькі ты, адзіны,*
*І няма рэк лепей, чым Днепро і Друць!*

*Край мой сінявокі, вольныя абшары,*
*Сенакос на лузе, свежая ралля.*
*Хай маю Радзіму абмінаюць хмары.*
*Мне без Беларусі не пражыць ні дня!*

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



# «Дунайскія хвалі»

*Абразкі-ўспаміны (у скарачэнні)*

## 1

Я стаяў з прасам у руках на кухні і праз акно бачыў, як па праезджай частцы туды-сюды праносіліся аўтамабілі, а на тратуарах, пакрытых моднай цяпер дробнай пліткай, заклапочаныя мінчане спяшаліся па сваіх справах. Радавала вока маладое лісце на ліпах і каштанах. Адчувалася, што вясна ўвайшла ў поўную сілу і дзякуючы сонцу, якое адорвала жыццядайнымі промнямі стомлены за зіму Мінск, упэўненай хадой крочыла насустрач свайму брату лету.

Адпрасаваўшы кашулю, я перанёс яе ў залу і павесіў на вешалцы на дзверцах шафы. Вярнуўшыся на кухню, прысеў каля стала, каб крыху адпачыць. Раптам за акном прагрукатаў трамвай, які, нібы нейкая гіганцкая пачвара, пранёсся на высокай хуткасці. Я, задумаўшыся, ад нечаканасці ўздрыгнуў: столькі гадоў жыву побач з трамвайнай лініяй, але ніяк не магу прывыкнуць да гэтага нечаканага грукату, асабліва ўначы, калі горад засынае і ты адчуваеш сапраўдную асалоду ад музыкі цішыні... Але ўдзень, ідучы па вуліцы і размаўляючы з кім-небудзь, раптам заўважаеш, што не чуеш свайго голасу: моцны шум транспарту перакрывае ўсё. А мы, гараджане, так прывыклі да яго, што адчуваем гэта толькі тады, калі шум знікае і наш цудоўны Мінск, як чалавек, стомлены пасля цяжкай працы, нарэшце трапляе ў абдымкі ночы, каб набрацца сіл для новага дня…

Да ночы яшчэ было далёка, і рука сама пацягнулася да маленькага прыёмніка, што стаяў на стале. Уключыўшы яго, я пачуў гукі вальса. Адразу пазнаў: «Дунайскія хвалі». У выкананні духавога аркестра.

…Ты нібы карабель ці птушка. Падхоплены хвалямі жыцця, імкнешся за небакрай, туды, дзе цябе чакаюць неабсяжныя далі, новыя адкрыцці і сустрэчы; дзе цябе чакае каханне, сям'я, шчаслівае жыццё… Штосьці падобнае я адчуваў, калі шмат гадоў таму ўпершыню пачуў вальс «Дунайскія хвалі». Так здарылася, што менавіта з яго пачаўся мой шлях у краіну (лепш, напэўна, сказаць «сусвет»), дзе я знаходжу адхланне для маёй стомленай душы; для мяне гэта вострaў, дзе можна знайсці прытулак ад жыццёвых навальніц (як у вядомым рамансе Сяргея Рахманінава на словы Канстанціна Бальмонта). Гэтая краіна — Музыка. Асабліва важна, каб у цябе быў дасведчаны спадарожнік, настаўнік, які б змог пазнаёміць з законамі гэтай краіны, якія, як высветлілася праз шмат гадоў, трэба ведаць дасканала. Але тады, будучы школьнікам, я адправіўся туды адзін, як пілігрым, якому было цікава абсалютна ўсё…

…З прыёмніка даносіліся гукі вальса. Заплюшчыўшы вочы, я сядзеў, прагна ловячы кожны гук…

## 2

Калі я вучыўся ў класе трэцім-чацвёртым, мы з маёй малодшай сястрой Таняй, як звычайна, праводзілі летнія канікулы ў бабулі і дзядулі на Ляхавіччыне, у вёсцы Галаўнінцы, адкуль родам наша мама. Гэта былі незабыўныя дні: не трэба хадзіць у школу, спаць можна колькі хочаш. А галоўнае — з галаўнінскімі дзецьмі мы ладзілі вясёлыя гульні. І не толькі гэта. Што на свеце бывае смачнейшым за кубак цёплага сырадою і акрайчык свежага хлеба з малінавым варэннем?..

Асабліва запомніліся першыя хвіліны кожнага нашага прыезду. Калі мы з сястрой наўздагон ляцелі да брамкі (мама і тата з цяжкімі сумкамі крочылі ззаду, а я нёс штосьці-небудзь лёгкае), як правіла, першай нас заўважала бабуля, Анастасія Сцяпанаўна, і з радаснай усмешкай ішла насустрач. Маленькая, худзенькая, у чорнай кофце і такога ж колеру доўгай спадніцы ды фартуху, у светлай хустцы, яна абдымала мяне, і я заўсёды здзіўляўся, колькі жыццёвай сілы і мужнасці, стойкасці і мудрасці ў гэтай жанчыне... А як ззялі бабуліны вочы, калі яна бачыла нас, сваіх дзяцей і ўнукаў!

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны яе, зусім яшчэ маладзенькую, фашысты пагналі разам з іншымі шматлікімі беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі ў Германію, дзе яна і пазнаёмілася з маім дзедам, Міхаілам Іванавічам Рымшам, жаўнерам Войска Польскага. Дзед трапіў у фашысцкі палон у 1939 годзе і таксама быў угнаны ў Германію. Там яны пакахалі адно аднаго, і ў іх нарадзіўся першынец — сын Сцяпан, які неўзабаве памёр. А 16 чэрвеня 1945 года, калі яны вярталіся з Германіі, у цягніку, на тэрыторыі Чэхаславакіі, на свет з'явіўся іх сын Андрэй, мой родны дзядзька. Пасля, калі дзядуля і бабуля вярнуліся ў Галаўнінцы, у іх нарадзілася яшчэ трое сыноў (Уладзімір, Вікенцій, Іван) і дачка Вольга, мая мама…

…За бабуляй нам насустрач, шчыра ўсміхаючыся, нетаропка ішоў дзед, Міхаіл Іванавіч. Таксама вельмі худы, у чорна-чырвоным світары, цёмных штанах, запраўленых у гумовыя боты. Мне, нібы даросламу, ён спачатку паціскаў руку, а потым радасна абдымаў са словамі:

— Унучак, мы так рады вас бачыць!..

Таня кідалася дзеду на шыю і цалавала яго ў шчаку. Мне тады здавалася, што людзей, больш шчаслівых, чым мы ў тыя хвіліны, на ўсім белым свеце не было…

Аднойчы мы з бабуляй сабраліся ў вёску Крывошын, якая знаходзілася за тры кіламетры ад Галаўнінцаў. Тады, помню, гэта была першая падобная вандроўка. Пазней, калі да нас з Таняю далучаліся дзеці дзядзькі Андрэя (таго самага, які нарадзіўся ў Чэхаславакіі) Валодзя і Люда, мы хадзілі ў Крывошын яшчэ некалькі разоў. (Асабліва запомніўся паход у крывошынскую амбулаторыю, дзе мне вырвалі зуб; за гэты дзіцячы подзвіг я атрымаў ад бабулі папяровы савецкі рубель, за які ў Мінску купіў даміно незвычайнага аранжавага колеру.)

Дабрацца да Крывошына можна было або праз лес, трохі скараціўшы шлях, або па шашы каля вёсак Малышы і Каўпакі. У той раз мы пайшлі па шашы. Бязлітаснае летняе сонца не шкадавала нас, хацелася піць. Шлях здаваўся бясконцым. Пакуль дайшлі да Крывошына, добра стаміліся. Але стома, як зараз помню, умомант знікла, калі мы з сястрой убачылі дзве крамы каля вялікага прыгожага храма. У адной можна было купіць прадукты і культтавары, а ў другой — кнігі. Так было напісана на шыльдах. У прадуктовай краме мы атавырыліся даволі хутка (асабліва, памятаю, прыйшоўся даспадобы ліманад). А вось у другой краме мы затрымаліся надоўга. Хаця бабуля трохі паспешала мяне (я навучыўся чытаць рана і вельмі любіў кнігі), з крамы выходзіць увогуле не хацелася. Столькі цікавага было ў той невялікай сельскай кнігарні! Раптам каля выхаду я заўважыў асобны невялікі стэлаж, дзе стаяла некалькі нотных зборнікаў. Адзін з іх адразу прыцягнуў маю ўвагу. На яго вокладцы было напісана: «Самоучитель игры на аккордеоне». Аўтар — Альфрэд Мірэк. Я ўзяў кнігу ў рукі, пагартаў. Маланкай мільганула радасная думка: аказваецца, навучыцца іграць на інструменце, які я абажаў, можна самому, без настаўнікаў. У кнізе былі ноты, схемы клавіятур і, галоўнае, пакрокава разбіраліся ўсе нюансы навучання. Тады мне здавалася, што ўсё гэта вельмі проста: дастаткова ўзяць у рукі акардэон — і ты можаш сыграць амаль любую песню ці танец! (Пазней я пераканаўся ў тым, што бездакорнае выкананне санацiны, эцюда, паліфанічнай п'есы — гэта штодзённыя рэпетыцыі па пяць гадзін, прычым без выхадных.) У тую хвіліну я настолькі быў захоплены сваім адкрыццём, што нават не заўважыў, як бабуля падышла да мяне і таксама пачала ўважліва разглядваць ноты і схемы. Нарэшце яна ўсміхнулася і сказала:

— Ну што, унучак, паглядзеў? Вярні кніжку на паліцу і пайшлі. У нас яшчэ шмат спраў…

Прайшло столькі гадоў з таго часу, і я ўжо не помню, як доўга ўгаворваў бабулю (і, галоўнае, як пераканаў яе) купіць мне гэты самавучыцель Альфрэда Мірэка. У рэшце рэшт яна напаўсур'ёзна-напаўжартам узяла з мяне слова, што я стану добрым музыкантам, і дастала з маленькага чорнага кашалёчка тры савецкія рублі. Зборнік, па-мойму, каштаваў два рублі з капейкамі. Тады, яшчэ малы, я не ўяўляў, што для маёй бабулі, якая жыла ў вёсцы і атрымлівала мізэрную пенсію, гэтая сума была вельмі значнай. І можа, гэтыя грошы былі патрэбныя ёй для больш важнай справы. Але ў той час, калі мы вярталіся ў Галаўнінцы праз лес, каб трохі скараціць шлях, бабуля глядзела на мяне, шчаслівага, і таксама ўсміхалася. А я, рызыкуючы спатыкнуцца аб карэнне дрэў, безупынку гартаў сваю кнігу, і ў маёй галаве нараджаліся ўсё новыя ідэі…

Прыехаўшы ў Мінск, я адразу ж захацеў ажыццявіць сваю мару — навучыцца іграць на акардэоне. Праўда, інструмент у мяне быў дзіцячы — падарунак другога майго дзеда Івана Антонавіча, татавага бацькі. Дзядуля няблага іграў на гармоніку, а я яшчэ ў пяцігадовым узросце «акампаніраваў» яму, адным-двума пальцамі, на маленькім акардэоне. Шмат рэвалюцыйных песень, а таксама песень грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў дзякуючы дзядулю я ведаў на памяць. З таго часу і захапіўся ідэяй стаць акардэаністам… Але, вярнуўшыся з Галаўнінцаў з самавучыцелем, зразумеў, што трэба шукаць «сур'ёзны» інструмент. Выручыў дзядзька Андрэй, у якога быў акардэон савецкай вытворчасці, як бы зараз сказалі пра аўтамабіль, «з вялікім прабегам». Нягледзячы на некаторыя тэхнічныя недахопы, якіх было больш чым дастаткова, я вельмі захапіўся ігрой на гэтым інструменце.

…А першым «сур'ёзным» на той час творам, які я знайшоў у зборніку Альфрэда Мірэка і вывучыў, быў вальс «Дунайскія хвалі». Пазней я, вядома ж, даведаўся пра тое, што гэты вальс напісаў румынскі кампазітар сербскага паходжання Іосіф Іванавіч у 1880 годзе ў горадзе Галац (на рацэ Дунай), калі служыў капельмайстрам духавога аркестра 6-га румынскага палка. На некалькі гадоў гэты твор стаў маёй музычнай «візіткай». І, напэўна, «пуцёўкай» у краіну з цудоўнай назвай Музыка…

## 3

Калі я закончыў шосты клас, мы з сястрой Таняй, як заўсёды, на летнія канікулы адправіліся ў Галаўнінцы да бабулі і дзядулі. Але тады са мной ехаў і мой сябар — новенькі «Вельтмайстар», нямецкі акардэон, які ўвесну таго ж года мне купілі бацькі. Тата, ведаючы пра маё жаданне асвоіць акардэон, з улікам добрых адзнак у школе паабяцаў купіць мне інструмент, як бы цяпер сказалі, прафесійнага ўзроўню. Праўда, узяўшы з мяне абяцанне, што буду валодаць ім, як знакаміты акардэаніст, наш з татам кумір Валерый Коўтун.

Я, вядома ж, паабяцаў. Напэўна, любы хлопец у 13 — 14 гадоў верыць, што заўсёды будзе першым у жыцці на ўсіх «франтах». Здаецца, я ўсё ж такі ў нечым стрымаў слова, таму што пазней, закончыўшы музычна-педагагічны факультэт майго роднага БДПУ імя Максіма Танка, на дзяржэкзамене выканаў даволі складаны твор Альберта Фасэна «Лісты, якія ляцяць». Праўда, падчас іспыту перахваляваўся і сыграў трохі горш, чым хацеў. Не ведаю, што адчуваў тады мой выкладчык Анатоль Паўлавіч Марозаў, таленавіты педагог, які імкнуўся зрабіць з мяне прафесійнага музыканта. Пакуль жыву, я вельмі ўдзячны яму за яго чалавечае стаўленне да мяне і вялікае цярпенне…

Але да гэтага экзамену я вытрымаў яшчэ і шмат іншых. А першы з іх быў у Галаўнінцах, у той год, калі ўпершыню прывёз у нашу вёску свой «Вельтмайстар». Пагалоска пра тое, што да Міхася Гараб'я (такая вясковая мянушка была ў дзядулі, таму ўсіх нас называлі Гарабейчыкамі) прыехала дачка Вольга з мужам Леанідам і іх дзецьмі, хутка разляцелася па вёсцы. І неўзабаве ў нашай хаце, на кухні, дзе ў покуці вісеў абраз з выявай Багародзіцы, сабраліся нашы вясковыя сваякі. Прыйшлі родныя дзедавы сёстры — бабулі Зіна і Ніна (апошняя — з мужам, дзедам Юзікам), а таксама родны брат дзядулі Паўлюк з жонкай Нінай. Як звычайна, доўга не маглі нагаварыцца. Было шмат тостаў, успамінаў, свежых вясковых і гарадскіх навін, радасных слёз, усмешак, жартаў… Пасля чарговага тоста за шчасце, здароўе, дабрабыт Рымшаў, Пятровічаў, Мішкевічаў, Дыдышкаў, усіх добрых людзей, нарэшце, захацелася паспяваць, і тата папрасіў мяне ўзяць акардэон. Я, у сваю чаргу, шчыра прызнаўся, што рэпертуар у мяне пакуль што вельмі сціплы — усяго некалькі песень і танцаў. Помню, дзядуля тады сказаў проста:

— Унучак, сыграй тое, што табе самому найбольш падабаецца.

Я вельмі хваляваўся, але ўсёй душою разумеў, што дрэнна сыграць не маю права. Спачатку нерашуча, а потым усё смялей я націскаў на клавішы і кнопкі, адчуваючы, як тут, на маленькай кухні, адбываецца сапраўдны цуд: нараджаецца і лунае ў паветры мелодыя вальса «Дунайскія хвалі»… Так, менавіта з яго я пачаў сваё выступленне, мой першы ў жыцці сур'ёзны канцэрт — перад сваякамі. Потым мне нават даваўся іграць на дыскатэках у Галаўнінцах — на ўдарных і сінтэзатары, выступаць з акардэонам перад камбайнерамі ў полі… Але той, першы сапраўдны экзамен на нашай галаўнінскай кухні, здаецца, я вытрымаў…

# Як пісала Еўфрасіння

**Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і з нагоды аб'яўлення горада Бабруйска культурнай сталіцай Беларусі ў 2017 годзе ва УК «ЦБС г. Бабруйска» гарадской бібліятэцы № 8 імя Е. Полацкай распачалі беларускамоўны культурна-асветніцкі праект «Кніжкіна гісторыя». Са студзеня 2017 года культурна-асветніцкія заняткі ўжо наведала 310 дзяцей.**

Заняткі «Кніжны востраў у лабірынце ведаў» накіраваны на далучэнне дзяцей да бібліятэкі і беларускай кніжнай культуры. Бібліятэкары пазнаёмілі дзетак са знакамітымі бібліятэкамі Старажытнага Усходу, Антычнасці, Сярэднявечча, бібліятэкай Полацкага княства, а таксама з самай галоўнай кніжніцай нашай краіны — Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Дзеці з задавальненнем паўдзельнічалі ў віктарыне «Назаві па-беларуску», знайшлі дарогу ў лабірынце «Шлях чытачоў да бібліятэкі».

Каб даведацца пра пісьмо першабытных людзей — піктаграфію, першы фінікійскі алфавіт, стваральнікаў славянскага алфавіту братоў Кірыла і Мяфодзія, а таксама пра адметнасці беларускага алфавіту, дзеці наведалі заняткі «Гісторыя літар». Даведацца пра старажытныя формы і матэрыялы кнігі — гліняныя дошчачкі, папірусныя скруткі, берасцяныя граматы, старажытнакітайскія бамбукавыя звязкі дапамаглі культурна-асветніцкія заняткі «Цуд, імя якому кніга». Дзеці паспрабавалі пісаць так, як пісалі старажытныя шумеры: драўлянай палачкай па глінянай дошчачцы, а потым самі зрабілі кітайскую кнігу.



Рукапісная кніга стала тэмай заняткаў «Па старонках рукапісных фаліянтаў». Дзеці пазнаёміліся з гісторыяй рукапіснай кнігі: як і з якіх матэрыялаў яна рабілася, як афармлялася, хто і дзе займаўся перапіскай кніг. Хлопчыкі і дзяўчынкі пагарталі факсімільныя выданні беларускіх рукапісных кніжных помнікаў — Тураўскага і Слуцкага Евангелля, паспрабавалі прачытаць тэксты факсімільных выданняў і самі пабывалі ў ролі афармiцеляў, размалявaўшы буквіцы старажытных кніг.

Да Дня памяці Еўфрасінні Полацкай зладзілі заняткі «Беларуская святая, асветніца — Еўфрасіння Полацкая». Дзеці пазнаёміліся з факсімільным выданнем «Жыціе блажэннай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Уседзяржыцеля Святога Спаса ў горадзе Полацку», а таксама пісалі словы і сказы гусіным пяром так, як гэта рабіла Еўфрасіння.

**Наталля КАЎГАРЭНЯ**

# МАСТЫ ПАМЯЦІ

**У серыі папулярных выданняў «100 выдатных дзеячаў» выйшлі новыя кнігі: пра Леаніда Маракова, Васіля Быкава, Анатоля Сыса, Адама Станкевіча і Уладзіміра Конана.**



*Леанід Маракоў ... свайго дзядзькі — п...*

*...чага архіва.*

**КНІЖНЫ СВЕТ СЕРАДА**

Здаецца, пра В. Быкава ў апошняе дзесяцігоддзе столькі пісалі, што ўжо немагчыма стварыць нейкае адметнае бачанне яго жыццёвага і творчага шляху. І сапраўды, аўтар Андрэй Мельнікаў не спрабаваў рабіць вынаходніцтвы ды пайшоў простым шляхам паслядоўнасці фактаў біяграфіі. У кнізе, якая мае падзагаловак «Доўгая дарога да праўды», разглядаюцца не толькі найбольш моцныя і вядомыя творы пісьменніка — тыя, па якіх мы сёння ўяўляем прозу В. Быка... не пакінулі значнага следу ў літаратуры.

«Доўгая дарога дадому» часта сё... кнігай В. Быкава. «Таленавіты бе... роцкім дарам», які «задаў б... характарызуе А. Мельнікаў п... творчую эвалюцыю як няпрос... ...нігі, да адкрыцця ўласнай праўды — ...беларусь і беларусаў. І на гэтым шляху аў... ...лішняга, непатрэбнага, спрэчнага, штучнага ...а, з высновамі А. Мельнікава пагодзяцца не ўсе зн... ...беларускай прозы — у кожнага з нас свая праўда.

Больш цікавай падаецца кніжка А. Мельнікава, прысвечаная Анатолю Сысу з правакацыйным (як і творчае аблічча самага паэта) падзагалоўкам «Псальмяр эпохі перагною». Тлумачэнне ў назвы простае. «Пра тое, што яго пакаленню беларускіх адраджэнцаў належыць стаць перагноем для наступных», Анатоль Сыс сказаў у адным з інтэрв'ю ў 1988 годзе. Яго імя нязменна адгукаецца болем — як сімвал скалечанага паэтычнага таленту, знявечанага часам, асяроддзем, нарэшце, уласным выбарам... Бясконцая гісторыя, якая паўтараецца штораз менавіта з найбольш адоранымі.




Для тых філфакаўскіх выпускнікоў, хто прыйшоў у літаратурнае асяроддзе ў 2000-х, для каго «Тутэйшыя», «Бум-бам-літ», «ТВЛ» ужо былі гісторыяй і тэмай даследавання, прозвішча Сыс гучала як таемны знак далучанасці да кола абраных, як знак добрага паэтычнага густу. Андрэй Мельнікаў піша пра Сыса па-іншаму — як сябра, непасрэдны ўдзельнік і сведка. У кнізе нязмушана перапляліся факты біяграфіі, вытрымкі з ліставання, вершы, згадкі сяброў-знаёмцаў і штрыхі да характарыстыкі творчага асяроддзя канца 1980-га — пачатку 1990-х. У гэтым стракатым тэксце, дзе творчасць Анатоля Сыса не разглядаецца самотна як тэма асобнай лекцыі, яго вершы чытаюцца крыху па-іншаму. Небяспека ў тым, што некаторыя моманты не кожны чытач здолее ўспрыняць адэкватна: як факт літаратурнага жыцця, а не як пераказ тагачасных плётак і дробязнае выстаўленне рахункаў.

У кнізе Анатоля Астапенкі «Уладзімір Конан. Творца беларускай нацыянальнай ідэі» не стае раскрыцця ўказанай у падзагалоўку тэмы. Біяграфія даследчыка эстэтычнай думкі Беларусі, філосафа, культуролага, літаратуразнаўцы настолькі ярка характарызуе шлях беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі пэўнага перыяду, што аўтар часта пераносіць акцэнты з постаці У. Конана на асвятленне грамадска-палітычных працэсаў краіны. Гэтак жа, як і ў кнізе Андрэя Вашкевіча «Адам Станкевіч. Прадаўжальнік справы Скарыны і Багушэвіча» вельмі шмат увагі надаецца грамадскаму, рэлігійнаму, культурнаму жыццю пэўнага перыяду гістарычнага развіцця Беларусі. Праўда, многія аспекты дзейнасці А. Станкевіча 1920 — 1940-х гадоў сапраўды патрабуюць шырокага ўвядзення ў кантэкст тагачасных палітычных пературбацый і будуць цікавыя найперш гісторыкам.

Вылучаецца сярод астатніх выданняў серыі кніга Настассі Зелянковай пра Леаніда Маракова. Найперш тым, што герой кнігі пайшоў з жыцця зусім нядаўна — у снежні 2016 года. Усе астатнія постаці, якім каардынатары серыі аддаюць даніну павагі, значна больш аддаленыя ў часе ад сённяшняй Беларусі. Мабыць, прычына асаблівага стаўлення ў тым, што Л. Маракоў так нястомна і самаахвярна будаваў масты памяці паміж мінуўшчынай і будучыняй, што ўрэўшце паклаў у падмурак і ўласнае жыццё. «Чалавек, які не даў беларусам забыць пра свае ахвяры» — гэтак вызначае аўтарка сутнасць жыццёвага шляху Л. Маракова.

Н. Зелянкова пачынае расповед пра самага значнага даследчыка палітычных рэпрэсій на Беларусі з сямейнай гісторыі. Бадай, пра тое, што папулярны ў 1920-х гадах паэт Валеры Маракоў, расстраляны ў 1937-м, быў яго родным дзядзькам, ведаюць усе. Аднак рэпрэсаваны быў і дзед, святар Дзмітрый Маракоў, і бацька Уладзімір, які вярнуўся з лагера цяжкахворым і неўзабаве памёр. Такім чынам, даследаванне тэмы палітычных рэпрэсій было ў першую чаргу справай удакладнення гісторыі ўласнага роду. Хто ведае: калі б трагічныя старонкі не замоўчваліся і юны Леанід, выхаваны, па сутнасці, дзедам Дзмітрыем, даведаўся праўду раней, магчыма, ён стаў бы не студэнтам радыётэхнічнага інстытута, а гісторыкам і ягоная дарога да ўласнай праўды распачалася б раней? ... другога боку, менавіта паспяховая прадпры... ...кая дзейнасць дазволіла Л. Маракову ў ... ...бегнуць шматлікіх фінансавых праблем, ... ...жна сутыкаюцца айчынныя гуманіта-...

... Л. Маракова звярнуліся з просьбай ... ...ным архіве дакументы, звязаныя ... ...ькі Валерыя. І гэта сапраўды быў ... момант, які падзяліў жыццё на «да» ... ...пачатку яшчэ не даследчык, але толькі сва... ...га паэта меркаваў, што абмяжуецца выданнем ... жыццё і творчасць дзядзькі.

... пошуках матэрыялаў Л. Маракоў пачаў працаваць у архі..., бібліятэках, наладжваць сустрэчы са сваякамі рэпрэсаваных і з тымі, хто сам здолеў выжыць і вярнуцца з лагераў. Так пачалася даследчая праца, якой наканавана было стаць справай усяго жыцця, таму гаворка пра Леаніда Маракова непазбежна пераўтвараецца ў гаворку пра палітычныя рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі — тэму агучаную ў нашым грамадстве, аднак па-ранейшаму цяжкую, пакутную і, што самае трагічнае, так да канца і не ўсвядомленую нашчадкамі і катаў, і ахвяраў. Вывучаючы біяграфіі тысяч расстраляных літаратараў, настаўнікаў, медыкаў, святароў, інжынераў, землеўласнікаў, Л. Маракоў прыйшоў да безвыходна-скрушнай высновы: мы не дзеці лепшых, мы — дзеці горшых, бо лепшых знішчылі. Яшчэ наперадзе асэнсаванне таго, што акрамя гістарычна-дакументальнай праўды, зрэшты, не такой ужо і далёкай нашай мінуўшчыны, у даследаваннях Л. Маракова — праўда і пра сучаснасць, пра вытокі многіх сённяшніх праблем у розных галінах навукі, грамадскай і культурнай дзейнасці.

Даследчыцкая цікавасць і сляды архіўных дакументаў прывялі Л. Маракова і да вывучэння мінскай геаграфіі. Так з'явіўся энцыклапедычны даведнік у дзвюх кнігах «Галоўная вуліца Мінска. 1880 — 1940» (2012, 2014 гг.). Гэта не звычайнае краязнаўчае даследаванне: праз змены шыльдаў, нумарацыі, планаў забудовы паказваецца, па сутнасці, гісторыя беларускай сталіцы і яе жыхароў, лёсы якіх складваліся трагічна ў выніку метадаў вырашэння адвечнага «кватэрнага пытання». І зноў жа — «мост» у сучаснасць: ці многа назбіраецца сёння карэнных мінчукоў?

У сваіх кнігах Л. Маракоў звяртаўся да асвятлення аспектаў, якія многія лічылі спрэчнымі ў маральна-этычным плане: публікацыя звестак пра тых, хто непасрэдна браў удзел у расстрэлах, пра літаратурных кансультантаў НКУС, а таксама падрабязнае апісанне метадаў правядзення допытаў з указаннем прозвішча следчага. Чытаць гэта амаль немагчыма — яно ўнутранае супрацьдзеянне даводзіцца пераадольваць... І ў гэтым таксама адна з псіхалагічных складанасцяў тэмы палітычных рэпрэсій, якая з узроўню асабістага ўспрымання канкрэтнай асобы пераходзіць урэшце на ўзровень успрымання народам, грамадствам. Л. Маракоў так настойліва і паслядоўна, з такім непахісным імкненнем да дакладна задакументаванай праўды вяртаў беларусам памяць пра ахвяраў, а мы ад гэтай праўды дыстанцуемся, абмяжоўваемся агульнымі звесткамі, бо яна, зрэшты, нам, сённяшнім беларусам, непатрэбная. Законы псіхалогіі: каб перажыць найвялікшы боль, трэба закансерваваць яго ў глыбінях падсвядомасці. І працягваць жыць далей так, нібыта нічога не адбылося. Будаваць новыя міфічныя палацы ў новай міфічнай рэальнасці. Колькі разоў беларусы гэта рабілі?

Сціплая кніжачка Настассі Зелянковай пра Леаніда Маракова, выдадзеная ў серыі «100 выдатных дзеячаў», — першае слова павагі. Засталіся падрыхтаваныя, але нявыдадзеныя кнігі даследчыка. Уважлівага прачытання заслугоўваюць і яго мастацкія творы. Застаецца спадзеў, што прастора ўдзячнай памяці будзе шырыцца.

***Жана КАПУСТА***

# ПАТРЭБНЫ ГЕРОЙ

Прыкмета цяперашняга тэатральнага часу ў Беларусі: шукаем героя. У сваёй гісторыі і чужой, у нашай прасторы і ненашай. З рэальнага жыцця і герояў легенд. А то і выдуманага, але каб быў прыклад чалавека, які мяняе звыклы парадак і імкнецца спрыяць стварэнню новага — мастацтва, культуры ці краіны. Пры тым, што тэатральны герой можа і мусіць быць розны — і неабавязкова гэта нейкі бездакорны ідэал, але пры гэтым чалавек, які жыве ідэяй, здольны запаліць ёй іншых (хоць і не адразу, нават пакутліва і балюча гэта даецца). Тэндэнцыю пошукаў героя-пасіянарыя, зададзеную сёлета тэатральнай «скарыніянай», падтрымаў тэатр Генадзя Гладкова «Тэрыторыя мюзікла», які глядач ведае ў большай ступені па пастаноўках спектакляў для сям'і і прыемнага баўлення часу. Але нават тут агульныя павевы знайшлі сваё адлюстраванне: прэм'ера мюзікла «Страсці па Цілю» напрыканцы тэатральнага сезона стала здзіўленнем, таму што праз лёгкі аповед закранула балючыя для нас пытанні. Хто ёсць сапраўдны герой? На што ён здольны?

## ГЕРОІ НАРАДЖАЮЦЦА

Легенда пра Ціля Уленшпігеля ў сучасным айчынным кантэксце загучала актуальна. Не толькі таму, што рэжысёр пастаноўкі Настасся Грыненка папрацавала над гэтым. Наогул, сама канва дзеяння схіляе да некаторых часавых паралеляў, параўнанняў. Ды і герой жа надта прыцягальны паводле таго, што зрабіў для сваёй роднай Фландрыі (яе народ хацеў бачыць свабодным ад улады чужынцаў, фактычна паспрыяў стварэнню асобнай краіны). І справа гэтая да нашага часу актуальная ў дачыненні да нейкіх народаў. І герой дужа натхняльны. Таму старажытная легенда з часоў еўрапейскага Сярэднявечча аказалася жывучай.

У тэатры Беларусі быў пошук героя, здольнага змяніць свет, — у балеце Яўгена Глебава «Ціль Уленшпігель», які ўпершыню быў паказаны больш чым 40 гадоў таму. І хутчэй за ўсё гэтая тэма прыцягнула калісьці драматурга Рыгорыя Горына, які стварыў п'есу для пастаноўкі Марка Захарава ў славутым тэатры Ленінскага камсамола. У тым спектаклі было шмат музычных нумароў (аўтар музыкі Генадзь Гладкоў). У нашым спектаклі «Страсці па Цілю» музычныя нумары не проста «разбаўляюць» драматургічную аснову — яны спрыяюць сэнсавай пабудове спектакля. І зразумела, што музыка цяпер гучыць інакш, яна мае рокавае гучанне: час патрабуе рашучасці і энергіі. Але гэты рок не ціснe, не б'е па скроні. Ды асноўны тэкст Грыгорыя Горына створаны настолькі тонка (хоць і час, здаецца, іншы), што глядач не абцяжараны (гэта абсалютна ў ключы антрэпрызнага тэатра) і пры гэтым атрымлівае порцыю пытанняў і думак. Чаму ў некаторых народаў героі нараджаюцца раз на тысячу гадоў? І няўжо для таго, каб грамадства атрымала свайго героя, трэба прайсці шлях жорсткіх і драматычных падзей з вялікай колькасцю ахвяр?




Сцэна са спектакля «Страсці па Цілю».

## ГЕРОЯМІ СТАНОВЯЦЦА

Ціль не ідэал. З простай сям'і, але не асабліва (здаецца) заклапочаны побытавымі праблемамі. І мэты ў жыцці нібыта ў хлопца няма — толькі задзіраецца з тымі, каго нельга кранаць, выпады сумнўныя робіць у адрас іспанскіх уладароў, нават рызыкоўныя. Але такімі захапляюцца. Не каб сур'ёзнай справай займаўся, а ён галаву можа затлуміць нейкімі дзіўнымі словамі, нават з выклікам. Але такія падабаюцца жанчынам. І не істотна, што ходзяць у гай з кімсьці, вельмі падобным да каханай. Такому хлопцу можна дараваць шмат: і несур'ёзнасць (як здаецца збоку), і блюзнерства, і няпраўду (але ж з такой пераканаўчай шчырасцю данесеную), і неабдуманую рашучасць (вартую павагі). Таму што калі прыйдзе яго час, ён зробіць тое, што павінен. Зменіць свет у асобна ўзятай краіне.

Фландрыя патанае ў слязах: святая інквізіцыя карае без разбору ўсіх, у кім нешта не так ці не тое, хто патрапіў у лік няправільных асоб, нядобрых хрысціян, тых, чые думкі не ўпісваюц... ў прынятую дактрыну. На такім в... ...чы згарае і Клас, бацька Ціля. ... ...як адно цэлае, падобныя ... ...(ролі выконвае ар... ...бовіч).

Ціль у гэты час якраз вандруе. «Добрыя» суседзі робяць учынак (як ім падаецца) — праяўляюць «міласць»: няхай Клас гіне без доўгай пакуты, на хуткім агні. Як гэта перажыць? І калі немагчыма змірыцца, калі ўсё адно застаецца жыць тут, то, можа быць, лепш змяніць эпоху, якая пануе дома: пазбавіцца ўсяго чужога, жорсткага, дзе ёсць праява непавагі да тых, каму павінна належаць гэтая зямля?..

## ГЕРОЯЎ СТВАРАЮЦЬ

Пытанні ўзнікаюць падчас прагляду спектакля самі па сабе, прычым амаль адразу ўзрушваюць сцэны вогнішчаў: сцэнічны вобраз, прапанаваны мастаком Андрэем Меранковым, узмацняюць эмацыйныя спевы ў спалучэнні з харэаграфіяй (ад Дзмітрыя Якубовіча). У гэтыя моманты думаеш не пра Сярэднявечча, а пра людзей з сярэднявечнай свядомасцю і страхам, якія могуць, як ні дзіўна, жыць у любыя часы. Адсюль адмысловы падыход ад вонкавага аблічча герояў. Так, нібыта яны сапраўды з той, колішняй Фландрыі, да якой адсылаюць карціны на сцэне. Характэрныя капялюшыкі вопратка — але варта прыглядзецца, і заўважныя сучасныя стыльныя боты, зручныя нагавіцы, як цяпер носяць, а то і адзенне ў колерах хакі (мастак па касцюмах Таццяна Лісавенка). Ды што там, нават сучасныя аўтаматы ў руках герояў з'яўляюцца. Характар Ціля падкрэслівае нейкая ці не рэперская вопратка. Няма чаго здзіўляцца: спектакль, пра якіх бы людзей ні распавядаў, заўсёды разлічвае на тых, хто сядзіць у зале. На гэта разлічваў Горын — яго тэкст тонкі, скіраваны не столькі на расповед легенды, колькі на думкі, да якіх аўтар хоча праз яе прывесці: пра наканаванасць чалавека, падпарадкаванасць шэрых і непрычасаных аркіх асоб, якія не хочуць у шэрасці растварацца.

Ад тэатра «Тэрыторыя мюзікла» нічога такога нібыта не чакаеш. На музычныя спектаклі ходзяць у асноўным з жаданнем адключыцца ад паўсядзённасці, атрымаць свята. Разняволіцца. Каханне, жарты, прыгоды… Ёсць усё гэта. Як і рэфлексія праз музыку ў стылі рок (праўда, не зусім цяжкі): больш цяжкі рок можа вісець над народамі, якія не могуць вырвацца з замкнёнага кола, таму што не даюць сваім героям праявіць сябе. Рок правакуюць людзі — здрадай, няпраўдай, жаданнем выслужыцца і нешта атрымаць выключна для сябе, няважна, што за гэтым — пакуты іншых. Але ў спектаклі няма цяжкага адчування (ды ў гэтым тэатры яно немагчыма), бо ад пачатку зразумела: калі гаворка пра героя (што мы разумеем паводле назвы), то ўсё роўна ўсё ідзе добра, тым больш што мы гэта дакладна ведаем з гісторыі. Нам так хочацца, і мы шукаем гэтых гісторый і герояў у мастацтве — нават у забаўляльных яго варыянтах, — ідзём думкамі ўглыб стагоддзяў і, можа быць, падумаем пра сваё. Захочам агледзецца?

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Ён бачыў сны аб Б...ларусі…

## Асобы айчыннай гісторыі рас... ...праз сцэну

Яшчэ адзін зварот да жанру гістарычнага спектакля: «Браніслаў. Сцэны з жыцця ды сноў» паводле аднайменнай п'есы Эльдара Бякірава. Не проста гістарычнага, але нацыянальнага: беларускае тэатральнае мастацтва ўжо крочыць у гэтым кірунку. На жаль, пакуль што нетаропка: спектаклі, якія асвятляюць падзеі з мінулага краіны, час ад часу ўзнікаюць у рэпертуары таго ці іншага тэатра, але дасюль застаюцца адметн... з'явай. Тое, што створана, звычайна апелюе да глы... мінуўшчыны, паэтызуе часы Вялікага Княства Літо... га ці Рэчы Паспалітай (прыкладам, драматычныя сп... таклі «Пане Каханку» і «Чорная панна Нясвіжа», бал... «Вітаўт» Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага Вяліка... га тэатра оперы і балета і мюзікл «Соф'я Гальшанская» Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра). Гэтым разам увага звернута да больш блізкага сучаснаму гледачу пачатку XX стагоддзя — часу, калі фарміравалася аснова беларускай нацыі, якую мы ведаем зараз.

Нягледзячы на тое, што прэм'ера пастаноўкі адбылася яшчэ ў 2015 годзе, спектакль «Браніслаў. Сцэны з жыцця ды сноў» праекта «Арт-сядзіба» можна назваць прэм'ерным не толькі таму, што адбыўся ўсяго дзясяты паказ. Напачатку спектакль ставілі ў тэатры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта «На балконе», пасля дэманстравалі ў Пружанах, Гомелі ды Вільнюсе. Заўважна, што арганізатары імкнуліся звязаць пастаноўку з пэўнымі датамі: паказы былі прымеркаваныя да Дзён беларускай мовы ў лютым, да гадавіны з дня смерці галоўнага героя, а таксама іншых дзеячаў беларускай культуры, расстраляных у 1937 годзе. Нарэшце, п'еса пра вядомага мовазнаўцу зноў вярнулася ў Мінск, каб адзначыць першы юбілей.

Грамадска-палітычны вязнаўца і перакла... рашкевіч уперш... спектакля. ... якой п... патр... ...а быў ...і час, калі ...ці біяграфію ...а загадзя: спек... ...кладаецца з асобных ...ых ці ўяўных, дзе герой ці ...ь, ці то спіць. Яны аб'яднаныя ...м сюжэтам, але суаднесці ўрыўкі з ...іяграфічнымі рэаліямі без папярэдняй падрыхтоўкі досыць складана.




Фота Вадзіма Целіцы.

Сцэна са спектакля «Браніслаў. Сцэны з жыцця ды сноў».

Падзеі спектакля «Браніслаў. Сцэны з жыцця ды сноў» групуюцца вакол стварэння вядомай «Беларускай граматыкі для школ» 1918 года — першага грунтоўнага падручніка па беларускай мове, які замацаваў традыцыі беларускага пісьменства. «Граматыка» выпакутаваная, з'явілася шляхам каласальных намаганняў: нездарма сцэнічны Браніслаў некалькі разоў кажа, што жыццё — гэта барацьба і кожны змагаецца ў ім як можа. Вобраз Браніслава Тарашкевіча атрымаўся класічным вобразам беларускага героя: цалкам захоплены ідэяй, свядомы, чэсны, палка улюбёны ў Радзіму і роднае слова. Ён упарта ідзе адзін супраць грамадства, якое не разумее яго памкненняў, але ў той жа час сумняваецца ў сваіх сілах, вагаецца, прагне спачування і падтрымкі. Да таго ж ён валодае прадбачаннем: Браніслаў Тарашкевіч адзіны не ўдзельнічае ў гучных урачыстасцях пасля аб'яўлення беларусізацыі — наадварот: бачыць за імі яшчэ большую небяспеку. У самыя цяжкія хвіліны галоўнаму герою дае надзею постаць маці (ці гэта Радзіма, якая прыходзіць да аднаго з самых адданых яе сыноў?).

У пастаноўцы задзейнічаны не прафесійныя артысты, а студэнты тэатральных універсітэтаў, акцёры-аматары, прыхільнікі роднай культуры, мовы, тэатра — атрымліваецца, што беларусы выступаюць на сцэне дзеля такіх самых беларусаў. Ці не гэта лепшае сведчанне актуальнасці нацыянальных спектакляў?

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

*… у зоне азначанай вышыні…*

***…Становішча музыкі сёння зусім у іншых умовах, чым раней; мастацтва ўзнялося даволі моцна, густ здзіўлення прыстойна змяніўся, паколькі і музыка ў сваім ранейшым выглядзе для нашага вуха больш не гучыць і таму мае патрэбу ў важкай дапамозе, дзеля таго, каб падабраць і прызначыць такіх выканаўцаў (суб'ектаў), якія б задавальнялі сённяшні музычны густ і адпавядалі б новым відам музыкі, чым задавальнялі б кампазітара і ягоны твор… (запісана 23 жніўня 1730 г. рукой І. С. Баха).***

# АДНОЙЧЫ

Пачатак узнясення не мае варыянтаў. Першыя хвіліны пераадольваюць перашкоды і яшчэ патрабуюць некаторых намаганняў, але наверсе — толькі пераможная радасць: на спавівальнай прасціне жывым сэрцам б'ецца дар. Алгарытм творчасці як алгарытм узнясення. У музыцы Баха, на карцінах Эль Грэка, у цвічэнні рэпетыцыйнай раніцы, у трымценні музычнага вечара.

Цуд узнікнення дзівоснага псіхаэмацыйнага поля ўсведамляецца па выхадзе за яго межы. Хто «там» быў, ведае. Аднойчы створанае поле не знікае, існуе само па сабе і прэтэндуе на месца ў рэальнасці. Нястомна пра гэта — і Ю. Левінсон, і У. Вернадскі са сваёй «наасферай»… Міжвольна шмаргнеш ад гарачай патэльні руку: колькі фальшывых скрыпічных унісонаў можна было б прадухіліць. Колькі разоў не сыграць фальшыва «Паланэз» М. К. Агінскага, каб не застываў ён выродлівай канфігурацыяй у прамяністым полі сфер, не пагражаў бы вечаровым змяркannем выпаленай звыш нормы атрутнай цыгарэтай.

Мастацтва не дэсерт. Мастацтва — намаганне. Высокі давер творцы свайму суаўтару — выканаўцу. Даверлівая адкрытасць публікі, яе добраахвотная залучанасць у вір пакутнага ўзыходжання.

Для асалоды недастаткова падлічваць і фіксаваць метрарытмічныя і гукавысотныя прапорцыі, задавольвацца неагучаным нотным тэкстам. Смяшлівая безгрунтоўнасць, пакутная Радасць, самотны Бог (А. Лосеў) — выкрыванне таямніцаў і прысутнасць пры іх нараджэнні — вось у чым сэнс.

### *«Дзікія лебедзі»*

Прыйсці на канцэрт і захацець застацца. Не змушаць і не ўгаворваць сябе не зрывацца з месца: канцэрт «разгоніцца». Не пераконваць сябе, што вось гэта неахайнасць, якая толькі што прабегла праз усю сцэну, не цынічная, а выпадковая. І гэта толькі здаецца, што пасажы нагадваюць дранае сіта, а збянтэжаная спалоханасць уступнага акорда — разладжанасць не аркестравая, а тваіх недысцыплінаваных нерваў. А тое, што канцэрт замянілі канцэртам-розыгрышам ці канцэртам-капуснікам, — гэта таксама твая няўрымслівая фантазія.

Бывае інакш. Эмпатыя «текущему моменту», так неабходная недзе ў метро ці на гарадскіх святах, некуды выпраўляецца. Не трэба нікога ратаваць і апраўдваць цяжкім эканамічным становішчам краіны. Хвалявацца за МУЗЫКУ няма прычыны.

20 мая ў канцэртнай зале імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі лунала і крыліла даўно забытае: з дзяцінства знаёмае, затаптанае дарослым жыццём, прыстасаваннем і расчараваннямі, — адчуванне свабоды. Свабоды ў музыцы. Адчуванне нязмушанага самастварэння. Саманараджэння. Відавочнасць з'яўлення музыкі дзеля самога факта музыкі. Свабоды ад невядома чыёй прыхамаці, карыслівасці, «заполняемости зала», ад хвалявання «о жизнеобеспечении» міфічнага «наконцертынеходящего» адміністрацыйнага рэсурсу і ўсемагутнай бухгалтэрыі. Свабоды самавыяўлення. Свабоды аўтара «Розы мира», дзе краты і сцены турмы — усяго толькі непрыемная недарэчнасць.

20 мая на сцэну Малой залы імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі выйшла




*Выкладчык класа камернага ансамбля Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Даша (не Дар'я!!!!!!) Мароз з вучнямі.*

новае (пакуль нешматколькаснае) пакаленне маладых музыкантаў, неабцяжаранае ўмоўнасцямі «дарослага» жыцця. З устойлівым разуменнем свабоды і ўменнем ёю распараджацца. Вучні класа камернага ансамбля выкладчыка Дашы Мароз Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі былі няўлоўна іншымі. Няўжо прароцтва братоў Стругацкіх спраўджваецца, і «дзікія лебедзі» — сярод нас? Іх адрознасць — неаспрэчная. Відавочныя і разняволенасць, і нейкая самадазволеная годнасць. І здольнасць ва ўмовах (любой!) катастрофы стварaць новы свет, незалежна ад дарослых. І здольнасць не сёння — заўтра спыніць панылае існаванне харавога веча гімнаў сацыяльнай нерэалізаванасці. Відавочна татальная незалежнасць самапачування ва ўласна створаным алгарытме і — «нахабная» дзёрзкасць усё гэта не хаваць, застаючыся недасягальнымі пры любой спробе кагосьці пакваліцца на гэта. Дарослыя дзеці: ад 13 да 17 гадоў. Дый узроставая катэгорыя без патрэбы: гучанне інструментаў маладых музыкантаў узростам не збліжалася. «Дзікім лебедзям» ужо вядома тое, што С. Рыхтэр зведаў у сталым узросце: «Кожная нота што-небудзь загойвае».

### *«…я абяцаю вам сады!..»*

Само па сабе такое, як вядома, не ўзнікае. Само па сабе ўзыходзіць толькі пустазелле. А асоба развіваецца, беспераrынна ўскладняючыся і беручы энергію сталення ў сваім атачэнні. Нехта ж узгадаваў гэты сад. З'яўленне саду апраўджвае прыход садоўніка, які таксама ўзнік «не з насення і тронку, клубня альбо шляхам прышчаплення, а ў выніку досведу, пад уплывам асяроддзя і прыродных умоў» (К. Чапек).

Даша! Даша Мароз, як у вас гэта атрымалася?

Сады — любімая тэма. Любімая тэма не толькі К. Пендарэцкага, які сад свой любіць больш, чым свае партытуры. Сады — тэма нашага Скарыны, які, туляючыся паміж каралямі, разбіваючы душу аб гады і гарады, схіляўся над ружамі ў каралеўскім садзе Фердынанда І.

Усё сумленнае выклікае параўнанне з садам. Высокая эфектыўнасць на абмежаванай прасторы. Як сад М. Равэля у Манфарэ — дагледжаны і ўпарадкаваны — …лічкая дзялянка з незлічоны… …м разнастайнасцей. К. Пен… …кваючы алею мала… …тена мроіць пра … ягонай унучцы … …кі, колькі яму … …мі магутны… …ць дрэвы, якія …ць утрымліваць не…ынішчальную сувязь: «гук спараджае водгук» (А. Разанаў). Сад — жыццё за межамі ўласна чалавечага жыцця, больш будучыня, чым цяперашчына.

### *«Гэта быў ужо не ансамбль, а абсалютнае злучэнне… не ведаю, ці зрабілі запіс…» С. Рыхтэр*

Была свабода. Спадарожніца абраных. Была музыка. Свабодай гучалі ў выкананні маладых музыкантаў В.-А. Моцарт, С. Пракоф'еў, Ф. Мендэльсон, Д. Міё. З-за кратаў рэдкага гучання вызваліліся сучаснікі — В. Воранаў, П. Карманаў. Безнабісцкіх «кайданоў» панавала спавядальнасць А. Пярта і А. Шнітке. Ніводная тэмбравая, гука-высотная шумавая (і такія былі!) падзея не знікла, не згубілася. Колькасць гукавых падзей на адзінку часу выявілася эфектам, накіраваным у глыбіню перспектывы, у далячынь. Музыка адпавядала самой сабе. Пачуццё лёгкасці і бязважкасці, чысціні і праўды знайшлі прытулак.

Дык як у вас гэта атрымалася?

### *Сучасная музыка як сённяшні няпросты дзень*

Зразумела, *«nonvisipensa, quantosanguecosta»* — ніхто не дбае пра тое, колькі крыві гэта каштуе, і сучасная музыка — рэдкае задавальненне. «Зробленасць» (да драбніцаў!) партытуры, выпешчанае гукавое нараджэнне кантэксту, узважанасць прапорцый, чысціня абранага стылю, баланс інтэлекту і эмоцый, прыпыненне матэрыі знойдзеным напружаннем-паўзай, вымераная даўжыня і шчытнасць кожнага флажалета — тэрытория зусім не вучнёўскага кшталту.

З розуму, развагаў, абранага кірунку, з патрэбы часу і актуальнасці свядома ці падсвядома будуюцца ўласныя арыенціры, адкуль пачынаецца педагагічная мудрасць.

Канцэрт як мастацкая форма — увасабленне высакароднага стаўлення да навакольнага свету. Удасканаленне гэтай формы — супрацоўніцтва з новай стваральнай парадыгмай, з па-свойму ўбачанай новай рэальнасцю.

Так мастак змяняе свет. Канцэрт — усяго толькі маленькі эпізод жыцця. Ніхто не зверне ўвагу на некалькі збядняелых брэйгелеўскіх сляпых. Ну, зваліцца дык зваліцца! Ахвяры няшчаснага выпадку такія ж звыклыя, як ападанне лістоты з дрэваў. Жыццё пойдзе далей, і ніхто не заўважыць. Але калі ты ў цэнтры сусвету, чытай — нясеш адказнасць, — то падзея-канцэрт увасабляе лёс. Уключаецца нешта большае, вышэйшае за індывідуальнае жыццё, індывідуальнае майстэрства. Сад пачынае квітнець.

## На сваёй струне



**Ларыса СІМАКОВІЧ,**
**кампазітар**

«Дасканаласць — харaство ў інтэнсіўнасці» (Э. По)

Можна назваць сябе садоўнікам і так і не пасадзіць ніводнага дрэва. Абіваць яблыкі па восені са старой яблыні. Лічыць сад на колькасць пладаносных дрэваў як суму культурных раслін. Сад — як ферма. Даіць і нарматыўна карміць. Не ствараць, не ўкладацца. Дзесяцігоддзямі кіраваць аркестрам і так і не стаць яго руплівым гаспадаром і дбайным служкам. Задавольвацца выгадным статусам запрошанага дырыжора з пустым для актуальнасці і будучыні тэкстам на нейтроннай сетцы. Быць нічым для краіны, для зямлі, па якой ступаеш. Памнажаць пошласць У. Мішле. Лёгка пазбаўляцца ад здабытага досведу, пераступаць дазволеную мяжу і аднойчы не заўважыць, як канцэртуючы аркестраліст неўпрыкмет ператвараецца ў аркестр-суправаджэнне з абмежаванай функцыяй акампаніятара. Аркестр без тону і танальнасці. Аркестр без аблічча. Збітыя арыенціры і зменены крытэрыі. Музыканты без тону і танальнасці. Музыканты без аблічча, заклапочаныя бытам і драбязой думкі пра выжыванне, пра «харошыя» камандзіровачныя і выгадныя гастролі (лепш Чыкага, чым Барысаў! — насуперак рыхтэраўскаму: «Даже ваш захолустный, малокультурный Борисов — и тот лучше, чем Чикаго!»). Думкі, якія не толькі ў галовах, але і на пультах з нотамі, і паміж нот, і ў абертонавай зоне міжструння. Звышгукавой, а значыць, непачутай, застанецца шчырасць Джона Расэла: «Самая вялікая ўзнагарода за цяжкую працу — гэта не тое, што чалавек за яе атрымлівае, а тое, кім ён становіцца падчас яе».

Музыкант у аркестры павінен быць адзін. Гэта зручна. Калі птушкам сыпанеш зерне, яны галоў не падымаюць, яны — клююць. Калі сыпаць зерне бесперапынна, на ўсё астатняе можна забыцца. Забудуцца птушкі на лунанне ў срэбры аблокаў, на рызыкоўныя петлі Джанатана, яшчэ нядаўна з лёгкасцю маглі паўтарыць. Забудуцца, што «выдатнае — заўсёды цяжка», што пераадольванне цяжкасцей стварае выключныя ўмовы для прафесійнага ўзнясення, што «ўсе задавальненні свету палягаюць на тым, каб як мага спрытней утрымліваць няўлоўную дасканаласць» (М. Равэль). Прычыны страты чалавечай годнасці? У сацыяльнай і духоўнай бяздзейнасці асобы. Некаму ж выгадна. Аркестр-поні. Зручны ў карыстанні. Можна катаць дзяцей. Лепш — сваіх.

### *«І Божы свет здаваўся мілы, як бы сам Бог тут над зямлёю…»*

*(Якуб Колас)*

Сумленнасць, прафесіяналізм — як жа гэта блізка да патрыятычнай канцэпцыі, якая носіцца ў паветры, выглядаючы ці то прывідам, ці недасяжнай марай, ці нават новым ворагам народа. Можна апець і ўславіць родны кут, краявіды і вобразы і, па сутнасці, стварыць культ беларускага пейзажу, як гэта зрабіў А. Міцкевіч, стварыць гістарычны раман, як У. Караткевіч, а можна проста сваё не аддаць у чужыя рукі, самому пясціць, самому гадаваць.

У падзеі 20 мая адкрыты фінал. Праз год збярэмся зноў. Праз акіян музыкі. Праз безліч канцэртаў, фестываляў, творчых юбілеяў-справаздач. Кожны філармонічны вечар — музычны.

***«…І была напаўпустой зала. Гульд граў Баха — увесь вечар — Баха. А граў як пастар. Прычым пастар такі, для якога няважна, колькі людзей у ягоным храме — пяць альбо пяць тысяч. Ён маліўся за раялем, ён тварыў сваю месу…» (У. Співакоў «Дыялогі»)***

# Парадоксы зменлівай сістэмы

## Архітэктура сюррэалізму ў творах Ігара Карпава



*«Царыца сну і мудрасц*

Адарвацца ад штодзённай рэальнасці і паглыбіцца ў свет рамантычнай містычнасці, фантастыкі, апынуцца па-за межамі звыклага, традыцыйнага, адчуць энергетыку колераў... Менавіта так можна ахарактарызаваць выставачны праект «Свет сюррэалізму» мастака Ігара Карпава, які дэманструецца ў Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры».

Паняцце «сюррэалізм» у выяўленчым мастацтве выклікае асацыяцыі з імёнамі Сальвадора Далі, Рэнэ Магрыта, Хуана Міро. Ігар Карпаў у творчасці робіць адсылку да кожнага з аўтараў. Яго творы — падарожжа ў сусветную гісторыю мастацтваў, філасофскае разважанне над сутнасцю існавання чалавека ў прыродзе.

— У творах я выкарыстоўваю рэальнасць, аднак паралельна абапіраюся на фантастычныя апавяданні, уласныя фантазіі, — расказвае Ігар Карпаў. — Мае кампазіцыі непарыўна звязаны з жыццём, дэманструюць маё бачанне яго зменлівай сістэмы. У некаторых работах праглядаецца эмацыйна-псіхалагічны ўсплёск героў і прыроды, абумоўлены колерам і самой тэмай, у некаторых я звяртаюся да сусветнай гісторыі, напрыклад, карціна, прысвечаная Нікало Паганіні. Людзі, якія любяць музыку, знаёмыя з гісторыяй, могуць прачытаць у творы не толькі маё стаўленне да генія, але і этапы жыцця майстра, прасачыць матывы яго галоўных твораў. Я караную Паганіні залатой каронай, таму што да гэтага часу не згасла яго слава як геніяльнага музыкі. Люблю звязваць ры з прыродай і чалавекам. Мен… сінтэз дапамагае атрымаць с… энергіі. Нават калі вы… стоўваю адценні і… творы не паз… рыні і любо…

Мас… ў…

МАСТАЦТВА ЧАЦВЕР

…м. …слой… …ць, што ас… …ні. Наадварот, аў… …авацца, паглыбіцца… …ей сюжэта і паўзаемадзей… …ероямі. Важную ролю Ігар Карпа… …адае колерам: да спакойных, пастэльных адценняў звяртаецца зрэдку, выбірае яркія фарбы, якімі вылучае цэнтральныя лініі твора. Мастак насычае творы філасофскімі і рэлігійнымі сімваламі, эксперыментуе і выбірае свабоду экспрэсіі. На палотнах аўтар супрацьпастаўляе стыхіі. Так, у многіх творах узаемадзейнічаюць вада і агонь, неба і мора, пустыня і ўрбаністычная атмасфера, тыгры і слабыя жанчыны… Такім чынам, аўтар заклікае гледача параўноўваць, шукаць у сюжэтах асноўныя акцэнты.

Цікава, што па асноўнай адукацыі Ігар Карпаў архітэктар. Ён праектаваў многія знакамітыя будынкі сталіцы. Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што ён чалавек рацыянальны, таму ягонае захапленне сюррэалізмам можа падацца парадаксальным. Але ж сам аўтар падкрэслівае, што яго зварот да сюррэалізму — жаданне паразважаць і раскрыць сябе з новага боку, адысці ад рэчаіснасці і існаваць у іншым, ізаляваным ад «сапраўднага», свеце.

Мноства твораў мастака складана ўспрымаць у адной выставачнай прасторы. У галерэі «Універсітэт культуры» творы размеркаваны ў дзвюх залах: у адной — больш рэлігійных і гістарычных сюжэтаў, у другой — творы, аб'яднаныя тэмай існавання чалавека ў вялікім свеце.

**Вікторыя АСКЕРА**



## *Культурны ракурс*



**Чарговая вандроўка. Гэтым разам шлях наш ляжаў у Смаргонь праз аграгарадок Залессе, а менавіта праз аднаўленую сядзібу Міхала Клеафаса Агінскага. Дзве гадзіны — і мы ў Залессі. Нарэшце пабачылі саму сядзібу — прыгожую, белую, чысцюткую, на фоне блакітнага неба і зеляніны парка, які атачае будынак з усіх бакоў. Адразу ўзгадалася, якім быў ён некалькі гадоў таму: шэрыя сцены, выбітыя і закалочаныя дошкамі вокны, дзе-нідзе з-за сапсаванай тынкоўкі на вуліцу выглядалі цагліны. А занядбалы зарослы парк нагадваў дрымучы лес.**

**Да дзявятай гадзіны стрэлкі яшчэ не дацягнулі, а раней нас у сядзібе, якая стала музеем, ніхто не чакаў. Таму пайшлі аглядаць наваколле: шыкоўны яблыневы сад, цудоўны парк, прыгожае возера з парай лебедзяў і невялікая рачулка, берагі якой шчыльна абступаюць дрэвы і кустоўе. Дрымучасць трошкі захавалася. Але ж яна толькі да лепшага! Акультураных берагоў рэк, узятых у бетон, хапае і ў гарадах.**

**Нарэшце дзверы сядзібы-музея адчыніліся, і мы патрапілі ўнутр. Вядома, новы музей не можа пахваліцца багатымі зборамі і калекцыямі, тым больш арыгінальнымі рэчамі. Але тое, што ёсць, таксама вартае ўвагі. Музычныя інструменты, мэбля, карціны, більярдная зала, прыступкі, па якіх Міхал Агінскі падымаўся ў спальню. Дарэчы, акрамя сцен, гэта адзінае, што захавалася з часоў вялікага кампазітара.**

**Асобна хочацца адзначыць аранжарэю — цудоўны збор самых розных і незвычайных экзатычных раслін, кактусы ў квецені, фінікавая пальма. А яшчэ нам пашчасціла пабачыць кветку расліны, якая цвіце раз на пяць гадоў.**

**Невялікую экскурсію правёў адзін з даглядчыкаў сядзібы: ніякага стандартнага тэксту пра жыццё і творчасць Агінскага, а расповед пра экспанаты, а таксама пра звычайных людзей, намаганнямі якіх тут ладзіцца новая культурная кропка на мапе Беларусі, пра праблемы і перспектывы, прыгажосць і недахопы, працу добраахвотнікаў.**

**Удосталь нагуляўшыся па сядзібе, парку і яблыневым садзе, мы скіраваліся ў бок шашы: нас чакала Смаргонь, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.**

**Марына ПЕТРАШКЕВІЧ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года

16 +

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
29.06.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1554.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2154

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686